Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Паляунічы Беларусі

Орган Беларускага прамыслова-коопэрацыйнага саюзу паляунічых

1929
№ 10
Кастрычнік

Год выданьня III





Трапны стрэл.

# РЫБОЛОВНЫЕ СЕТИ.

**Поступили в продажу заграничные фильдекосовые сети немецкой и американской пряжи.**

| НАЗВАНИЕ ПРЯЖИ | РАЗМЕР | | | | Цена за штуку |
|---|---|---|---|---|---|
| | №№ пряжи | Ширина очков | Глубина в очках | Длина в метрах | |
| 1. Сети фильдекосовые немецкой пряжи . . . . . . | 100/6 | $15^{1}/_{2}$ м. м. | 48 очк. | 135 метр. | 40 руб. |
| | 80/6 | 20 м. м. | 50 „ | 70 „ | 25 „ |
| | 80/6 | 25 „ | 50 „ | 70 „ | 25 „ |
| | 100/6 | 52 „ | 19 „ | 79 „ | 18 „ |
| 2. Сети фильдекосовые американской пряжи . . . . . | 12/15 | 20 „ | 120 „ | 40 „ | 120 „ |
| | 12/15 | 25 „ | 120 „ | 40 „ | 118 „ |
| | 12/15 | 28 „ | 120 „ | 40 „ | 108 „ |
| | 12/15 | 32 „ | 120 „ | 40 „ | 104 „ |

**Означенные сети имеются во всех магазинах окружных товариществ— в Минске, Витебске, Полоцке, Лепеле, Орше, Могилеве, Бобруйске и Мозыре, а также в районных—Рогачеве, Климовичах, Слуцке, Койданове, Речице и Борисове.**

**Государственным, общественным и кооперативным организациям при оптовой покупке—скидка в размере 10%.**

**ОПТОВЫЕ ЗАКАЗЫ НАПРАВЛЯТЬ: г. Минск, Советская 71 складу Белкохотсоюза.**

Заказы выполняются при 25% задатка, остальная сумма наложенным платежом.

Рыболовным артелям и коллективам предоставляется кредит до трех мес.

---

# ПРОДАЕТСЯ ОХОТНИЧЬЕ РУЖЬЕ ФИРМЫ „ЗАУЭР“.

**Центрального боя 16 калибра, безкурковка, модель 14, сталь „три геркулеса“.**

**РУЖЬЕ ПОЧТИ НОВОЕ**

ОБРАЩАТЬСЯ: Минск, Молодеченская № 11,
ЯНЧЕНКО Б. С.

*Няхай жыве саюз рабочых і сялян!*

# Паляўнічы Беларусі

№ 10 Кастрычнік 1929

Штомесячная часопісь орган Белнахотсаюзу

Год выданьня 3-ці

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

На 1 год . . 2 р.
На 6 м-цаў . . 1 р. 20 к.
На 3 м-цы . . 70 к.

АБВЕСТКІ:

Старонка перад тэкстам 150 р.
На апошн. стар. вокл. 100 р.
Ззаду тэксту . . . 70 р.
Аб прапажы сабак . . 1 р.
Аб прадажы сабак . . 3 р.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

*Менск, Савецкая, № 71. Тэлефон—405.*

## ЗЬМЕСТ



# ДВАНАЦЦАТАЯ ГАДАВІНА КАСТРЫЧНІКА.



ВАНАЦЦАТАЯ гадавіна Кастрычніка праходзіць пад знакам нарастаньня агульнага крызысу ва ўсіх буржуазных краінах. Растуць супярэчнасьці імпэрыялізму, узмацняецца барацьба паміж працаю і капіталам, нарастае з кожным днём небясьпека імпэрыялістычных войн і падымаецца хваля вялізарных клясавых канфліктаў. Мы ўступаем у паласу разгортваньня новага рэвалюцыйнага ўздыму ў асноўных капіталістычных краінах. Поруч з гэтым растуць супярэчнасьці паміж капіталістычным сьветам і СССР, як дзьвума прынцыпова-працівалеглымі сыстэмамі дзяржаўнасьці і гаспадаркі.

У нашай краіне, ня гледзячы на вялізарнейшыя цяжкасьці, якія выклікаюцца варожым капіталістычным абкружэньнем, спадчынаю тэхнічна-эканамічнай адсталасьці, надзвычайна нізкім узроўнем сялянскай гаспадаркі, ідзе вялікая праца па сацыялістычнаму будаўніцтву. Вынікі мінулага гаспадарчага году сьцьвярджаюць тое, што пяцігадовы плян гаспадарча-культурнага будаўніцтва ня толькі рэальны, але і ёсьць усе падставы для таго, каб з упэўненасьцю сказаць, што наша сацыялістычнае будаўніцтва ўступіла ў фазу такога буйнога тэмпу, аб якім мы ў першыя гады нэпу маглі толькі летуценіць. У. І. Ленін ня раз казаў, што такі пэрыяд у нас будзе, што гэты пэрыяд буйнога росту вытворчых сіл краіны будзе вынікам пераважнасьці ўдзельнай вагі сацыялістычнага сэктару нашай гаспадаркі.

Шырока разгорнуты пераможны наступ на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, забясьпечыўшы рашучую перавагу сацыялістычнага сэктару гаспадаркі над капіталістычнымі элемэнтамі. Буйны рост індустрыі, магутны размах масавай калектывізацыі сельскай гаспадаркі, будаўніцтва буйных сельска-гаспадарчых фабрык—саўгасаў і калгасаў на аснове тэхнічнага ўздыму сельскай гаспадаркі, замацаваньне саюзу рабочае клясы з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства вёскі, рост культурнасьці сярод працоўных—вось што мы маем да дванаццацігодзьдзя Кастрычнікавай рэвалюцыі.

Энтузыязм пралетарыяту—будаўніка сацыялізму знаходзіць усё больш магутнае выяўленьне ў разгортваньні сацыялістычнага спаборніцтва, якое накіравана на павялічэньне выпуску прадукцыі, на ўзьняцьце вытворчасьці працы, на палепшаньне якасных паказчыкаў прадукцыі. Лёзунг У. І. Леніна—дагнаць і перагнаць у тэхнічна-эканамічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны, мы сапраўды пасьпяхова ажыцьцяўляем. Мы сапраўды сталі на шлях перабудовы нашай краіны з аграрна-прамысловай у індустрыяльна-аграрную.

У галіне прамысловасьці мы за мінулы гаспадарчы (1928-29) год маем рост валавой прадукцыі па БССР на 45 процантаў у параўнаньні з папярэднім годам. Гэта такі тэмп разгортваньня прамысловасьці, якім мы ішлі толькі ў адбудоўчы пэрыяд.

У галіне сельскай гаспадаркі мы маем павялічэньне пасеўнай плошчы, шырока разгортваецца калектыўны рух у вёсцы па вытворчаму аграмаджаньню індывідуальных гаспадарак, значна павялічалася забясьпечаньне сельскай гаспадаркі сродкамі вытворчасьці, падвоілася забясьпечаньне сельскай гаспадаркі мінэральнымі ўгнаеньнямі, павялічыліся разьмеры контрактацыі на 90 проц., шырока распаўсюджваецца ў вёсцы агрaмінімум, узьнялася актыўнасьць бядняцка-серадняцкіх мас сялянства.

Ня гледзячы на жорсткае і ўпартае супраціўленьне кулака, асабліва вялікія дасягненьні сельскай гаспадаркі ў справе калектывізацыі. У найбольш, чым у тры разы перавыкананы плян калектывізацыі, які быў вызначан кантрольнымі лічбамі мінулага году. Замест узмацненьня індывідуальных кулацкіх гаспадарак, на разьвіцьцё якіх арыентыраваліся і ў сучасны момант арыентуюцца права-апортуністычныя элемэнты, рабочая кляса

а пад яе кіраўніцтвам і бядняцка-серадняцкае сялянства на гэту апортуністычную тэорыю і практыку адказала ўзмоцненым тэмпам разгортваньня шырокага калгаснага будаўніцтва.

Новы гаспадарчы 1929-30 год ставіць перад намі новыя задачы больш складаныя, больш цяжкія. Але працоўны энтузыязм, якім ахоплена рабочая кляса і працоўнае сялянства, вынікі мінулага гаспадарчага году, нашы рэальныя меркаваньні аб буйным фінансаваньні прамысловасьці і сельскае гаспадаркі, зьяўляюцца парукаю таго, што мы з гэтымі задачамі пасьпяхова справімся.

Рост валавой прадукцыі на 1929-30 гаспадарчы год запроэктаваны на 60 проц. па цэнзавай прамысловасьці і на 65 проц. па рэспубліканскай. Якасныя паказальнікі намечаны наступныя: зьніжэньне сабекошту прадукцыі на 10 проц., рост прадукцыйнасьці працы на 26,8 проц. У галіне таваразвароту намечана далейшае разьвіцьцё сацыялістычнага сэктару і выцясьненьне прыватніка. Кантрольнымі лічбамі на 1929-30 гаспадарчы год прадугледжана 52 мільёны рублёў капітальных укладаньняў у рэспубліканскую прамысловасьць. Рост дзяржаўнага бюджэту вызначаецца ў 51,6 проц. у параўнаньні з мінулым годам.

У абсалютным аб'ёме наш бюджэт павінен вырасьці з 95 мільёнаў рублёў да 144,8 мільёнаў рублёў. Значныя сродкі, прадугледжваюцца на сацыялістычную перабудову сельскай гаспадаркі. Вось з якімі кантрольнымі лічбамі мы ўступілі ў новы гаспадарчы год.

Уступаючы ў трынаццатую гадавіну Кастрычнікавай рэвалюцыі пралетарыят нашай краіны ў саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі вёскі **пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі пойдуць далей па шляху перамог, па шляху ўзмацненьня тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва.**

# ПАЛЯЎНІЧАЯ КААПЭРАЦЫЯ ДА ДВАНАЦЦАЦІГОДЗЬДЗЯ КАСТРЫЧНІКАВАЕ РЭВАЛЮЦЫІ.

Да Кастрычнікавае рэвалюцыі ніякае паляўнічае каапэрацыі ня было і паляваньне служыла забавай для абшарнікаў, капіталістых ды чыноўнікаў, бо ў іх руках была зямля ды лясы. Рабочым ды бедным сялянам ня было дзе паляваць.

Толькі пасьля Кастрычнікавае рэвалюцыі Савецкая ўлада правідлова вырашыла гэта пытаньне. Яна адабрала ў абшарнікаў зямлю ды перадала яе працоўным, а разам з тым перадала ім і справу паляваньня, бо вядзеньне паляўнічае гаспадаркі, як і ўсякай іншай—ёсьць справа самых працоўных.

У першыя гады пасьля Кастрычнікавае рэвалюцыі паляўнічыя арганізацыі расьлі стыхійна і ёй зачастую кіравалі варожыя Савецкай уладзе людзі. Толькі ў 1924 годзе яны былі рэарганізаваны ў прамысловую каапэрацыю.

Да гэтага часу Беларуская паляўнічая каапэрацыя ўжо аб'яднала ўсю тэрыторыю сучаснай Беларусі за выключэньнем Гомеля і налічвала ў сваіх шэрагах 7982 члены. Капіталы ўсёй яе сыстэмы на 1 студзеня 1924 г. складаліся: асноўны—668 р., паявы—1586 р.; звароты тавараў за год раўналіся—37955 р. Першы год „Белкохотсоюз" вышаў з убыткам у 1.669 руб.

Работа маладой паляўнічай каапэрацыі была вельмі цяжкай, а таму ўпаўне зразумелы тыя памылкі і атрыманыя страты. Вядзеньне паляўнічае гаспадаркі яшчэ нічым не адрозьнівалася ад вядзеньня яе ў дарэвалюцыйныя часы. Але пад кіраўніцтвам Камуністычнае партыі, пры актыўным удзеле самых паляўнічых, работа каапэрацыйнага саюзу паляўнічых пачынае ажываць.

Былі ўстаноўлены цьвёрдыя тэрміны і спосабы паляваньня. Некаторыя зьвяры зусім забаронены да адстрэлу, сталі паступова разьвівацца заказьнікі і зараз мы дайшлі да таго, што ад мерапрыемстваў па ахове зьвера ды птушкі перайшлі да мерапрыемстваў плянамернага разьвядзеньня іх. Сетка вялікіх заказьнікаў, дасьледчых паляўнічых гаспадарак, гадавальнікі, запаведнікі — вось вынікі перабудовы паляўнічае гаспадаркі. У гэтай справе ўдзельнічае ўся маса паляўнічых разам з навуковымі сіламі.

Для яшчэ большага палепшаньня паляўнічае гаспадаркі распрацован пяцігодовы плян разьвіцьця яе. Для падрыхтоўкі кадру працаўнікоў-паляўнічазнаўцаў пры вышэйшых сельска-гаспадарчых навуковых установах уведзены спэцыяльныя аддзяленьні паляўнічазнаўства.

Асноўным дасягненьнем у справе разьвіцьця паляўнічае гаспадаркі належыць лічыць пераход ад вядзеньня паляўнічае гаспадаркі ў мэтах эстэтычных да вядзеньня гаспадаркі з мэтай дабываньня пушнога зьвера, чым паляўнічая гаспадарка кроўна зьвязала сябе з агульнай народнай гаспадаркай.

Дабыча пушніны ўжо цікава па аднаму таму, што яна зьяўляецца экспортнай сыравінай ды займае ў бюджэце Дзяржавы не апошняе месца. У першыя гады загатоўка пушніны (1925 год) насіла выпадковы характар. Зараз паляўнічая каапэрацыя зьяўляецца асноўным загатаўцелем і давяла яе да 93656 руб. (1928/29 год).

Асабовы склад нашае каапэрацыі таксама рос як па колькасьці, так і па якасьці і на сёньняшні дзень налічвае ў сваіх радох каля 30000 чалавек. Дзьвума генэральнымі чысткамі мы пазбавілі сваю каапэрацыю ад лішэнцаў, кулакоў, нэпманаў, якія мяшалі працаваць нам. Для ўцягненьня большай колькасьці рабочых ды сялянскай беднаты, уведзен дыфэрэнцыраваны пай, які для бедняка складае 3 руб. і для матар'яльна забясьпечанага да 25 руб. Уцягваецца бедната і за кошт фонду каапэраваньня, які ўтвараецца з прыбыткаў.

Пытаньні сабакагадоўлі, стралковага спорту, культасьветнай працы, зрушаны з месца. Гадавальнік сабак, ды свая часопісь „Паляўнічы Беларусі" — паказальнікі дасягненьняў. Выстаўкі, палявыя спробы сабак, стэнды, паляўнічыя гурткі, арганізацыя сельячэек, сацыялістычнае спаборніцтва, палепшаньне асабовага складу паляўнічых, уцягненьне паляўнічых мас у кіраўніцтва каапэрацыяй — вось нашы дасягненьні, задачы ды лёзунгі.

**Пад кіраўніцтвам Камуністычнае партыі, на аснове калектывізацыі, мэтадам сацыялістычнага спаборніцтва, адбудуем паляўнічую гаспадарку.**

І. Хадаронак.

# ПАЛЕПШЫМ ПРАЦУ РАЁННЫХ КАЛЯКТЫВАЎ.



У СЫСТЭМЕ паляўнічай каапэрацыі раённыя бюро зьяўляюцца вельмі адказным вучасткам працы. Яны непасрэдна павінны праводзіць у жыцьцё дырэктывы зьездаў і пленумаў і загады акруговых праўленьняў адносна адбудовы і аховы паляўнічай гаспадаркі, правядзеньня культурна-асьветнай працы сярод паляўнічых раёну, барацьбы з драпежнікамі і браканьерамі, збору пушніны і мехсыравіны, разьмеркаваньню агнябоеприпасаў і іншых прылад паляваньня сярод паляўнічых, кіраўніцтву працай бюро сельскіх ячэек, а таксама па правядзеньню агульнаграмадзкіх кампаній, як, напрыклад, пасеўныя кампаніі, дзень ураджаю, распаўсюджаньня дзяржаўных пазык, хлебазагатоўкі і інш.

Трэба сказаць, што мінулыя гады працы раённых бюро далёка не паказалі выкананьня гэтых абавязкаў і за самае лепшае бюро прыходзілася лічыць ужо тое, дзе грашовая частка была ў парадку.

Прычынай такой слабай працы ў большасьці выпадкаў было тое, што склад раённых бюро не адпавядаў сучаснаму вымаганьню да савецкай каапэрацыі асабліва паляўнічай, якая прызвана ня толькі здабываць зьвера ці птушкі, але адбудоўваць нашу паляўнічую гаспадарку, моцна зруйнованую ў часы вайны, акупацыяў і бандытызму. Там часта сядзелі людзі, якім менш за ўсё была прыемна адбудова Савецкай краіны.

Пры перавыбарчай кампаніі складаў бюро ў бягучым годзе, гэта было ўлічана; ставілася задачай паставіць на гэты адказны вучастак такіх паляўнічых, якія-б абавязкі члена бюро лічылі не за ганаровую адзнаку, а за вялікі абавязак няўхільнае заботы праводзіць у жыцьцё дырэктывы Савецкай улады і Кампартыі адносна ўдзелу паляўнічай каапэрацыі ў агульным адбудаваньні нашае Савецкае гаспадаркі і канкрэтныя заданьні сваіх вышэйшых каапэрацыйных органаў па ажыцьцяўленьню гэтых дырэктыў.

Тое самае мелася на ўвазе і адносна складу рэвізійных камісій раённых калектываў.

Што-ж цяпер маем на справе?

А маем, можна сказаць, тое, што зьмяніць склад бюро лягчэй, чымся адносіны іх да працы.

Будзем гаварыць пра раённыя бюро Меншчыны, якія так сказаць пэд вокам у Праўленьня „Белкохотсоюза“.

З тых раённых бюро новага складу, якія да гэтага часу былі абсьледваны інструктарам праўленьня і рэвізійнай камісій „Белкохотсоюза“, няма ніводнага, пра які можна сказаць, што праца пастаўлена добра па ўсіх галінах. Наглядаецца тое самае, што і раней, а часамі і горшае.

Возьмем, напрыклад, Бюро Бярэзінскага калектыву, якое і раней лічылася па працы ў першых радох.

Там перавыбары бюро адбыліся ў пачатку чэрвеня; склад падобран з добрых і сумленных паляўнічых, старшынёю абраны партыец і ў рэвізійную камісію ўвайшлі людзі здольныя.

Ну, а як праца?

А вось як.

Пры абсьледваньні ў канцы жніўня (гэта амаль праз тры месяцы пасьля перавыбараў) выявілася, што бюро мела толькі адзін устаноўчы сход, на якім былі разьмеркаваны абавязкі паміж членамі і пасьля гэтага ні разу на пасяджэньні ня зьбіраліся. За тры месяцы старшыня бюро толькі раз заглянуў у канцэлярыю бюро і то, мабыць, з выпадку дрэннага надвор'я; іншыя члены бюро таксама справай ня цікавяцца. Уся праца па сутнасьці ўзвалена на сакратара, хаця па разьмеркаваньню абавязкаў яму даручана толькі грашовая і гандлёвая часткі. Рэвізійная камісія таксама яшчэ ня прыступала да працы

У выніку такіх адносін складу бюро і рэўкамісіі да працы маем наступнае. Склад бюро сельскіх ячэек не праверан, а між тым у іх ёсьць такія асобы, якія нават не састаяць членамі саюза паляўнічых, ніякая праца з сельскімі ячэйкамі не вядзецца. Сувязі з мясцовымі органамі ўлады няма; даклады пра працу бюро на прэзыдыуме РВК ніколі ня ставіліся. Барацьба з браканьерствам не вядзецца; сьпіс выбыўшых з саюзу паляўнічых у міліцыю пасл алі, а нагляду за вынікам няма. Культурна-асьветная праца не праводзіцца; кніжкі, пасланай з праўленьня бібліатэкі, замест перасоўваньня паміж сельскімі ячэйкамі, ляжаць на паліцы. Плянавае барацьбы з драпежнікамі няма; добра яе вядуць толькі некалькі паляўнічых з. м. Бярэзіна, якія за зіму зьнішчылі 17 ваўкоў (загонам без флажкоў). Грамадзкія кампаніі ў поўным заняпадзе: падпіска на 3-ю пазыку індустрыялізацыі не праводзіцца і на 2-ю пазыку індустрыялізацыі (гэта пры ранейшым складзе бюро) уцягнулі ў падпіску некалькі дзесяткаў паляўнічых, але да канца справы не давялі; узялі з каго рубель, а з каго паўрубля і супакоіліся, а сабраныя грошы (48 руб.) і цяпер ляжаць не скарыстанымі па прызначэньню. Ніякай падрыхтоўчай працы да правядзеньня васеньняй пасяўной кампаніі і дню ўраджаю не вялося. Кепская справа і з каапэраваньнем беднаты: на такі вялікі раён чуць каапэравалі аднаго бедняка. Памяшканьне бюро ня мае шыльды, а затым цяжка дапытацца, дзе яго знайсьці — гэта папершае, а падругое— робіцца ўражэньне, што раённае бюро ня лічыць сябе за сур'ёзную ўстанову ў савецкім мэханізьме.

Пры ўсім гэтым трэба быць здаволеным і тым, што грашовая і гандлёвая частка ў парадку, але і тут парадак ня зусім здавальняючы, калі прыняць пад увагу, што ні тавары, ні грошы ў кнігі не запісваюцца і грошы, замест ашчаднай касы, хаваюцца пад падушкай.

Праўда, што ў гэтых апошніх дэфэктах многа віны праўленьня, але-ж адносна хаваньня грошай працаўнікі бюро маглі дадумацца, што хаваць іх так нельга і што такі спосаб не адпавядае тым кампаніям ашчаднасьці, у якіх брала ўдзел і паляўнічая каапэрацыя.

Які-ж вывад трэба зрабіць з усяго сказанага? Можна толькі наступны:

1. Новы склад бюро і ў прыватнасьці старшыня бюро не ўявілі сабе сваіх абавязкаў і адказнасьці за іх выкананьне. 2. Рэвізійная камісія бязьдзейнічае і таксама ня ўлічвае сваёй адказнасьці. 3. З боку праўленьня Менахоты, а затым „Белкохотсоюза“ ня было дадзена сваячасова новаму складу

бюро адпаведных дырэктыў і 4. З боку РВК не ўдзяляецца належнай увагі да працы паляўнічай каапэрацыі, а між тым адпаведная ўвага РВК магла-б значна пад'яць працу бюро.

Сказанае пра бюро Бярэзінскага калектыву істотна большасьці раённых бюро як Менскай, так і астатніх акруг, а затым і рацэпт зьнішчэньня недахопаў павінен быць агульным і вось якім:

Трэба кожнаму з працаўнікоў раённых бюро і рэўкамісіі ўявіць свае абавязкі і адказнасьць за працу і памятаць, што Ўрадам БССР на паляўнічую каапэрацыю ўскладзены вялікія абавязкі па адбудове паляўнічай гаспадаркі; уявіць, што паляўнічая каапэрацыя павінна нага ў ногу ісьці з іншымі Савецкімі і каапэрацыйнымі ўстановамі і арганізацыямі ў вялікай працы па выкананьні пяцігадовага пляну народнай гаспадаркі і культуры.

Трэба, каб праўленьні „Белкохотсоюза" і акруговых таварыстваў паляўнічых неадкладна разгарнулі шпаркую працу па сацыялістычнаму спаборніцтву сярод раённых калектываў і сельскіх ячэек паляўнічых, трэба, каб акруговыя праўленьні ўступілі ў сацыялістычнае спаборніцтва паміж сабой, каб гэтыя праўленьні і праўленьне „Белкохотсоюз" не забываліся пра тое, што толькі своечасовыя дырэктывы і добрая жывая сувязь могуць служыць залогам добрай працы ў раённых калектывах.

Трэба, каб рэвізійныя камісіі акруговых таварыстваў узмацнілі працу па плянаваму кіраўніцтву працай раённых рэўкамісій і па праверцы апошняй.

Трэба, каб РВК і сельсаветы памяталі, што ў іх абавязак увыходзіць нагляд за працай і паляўнічай каапэрацыі, што бяз іх дапамогі, гэта каапэрацыя ня здолее як сьлед працаваць.

# ДА ЧЫСТКІ Ў ПАЛЯЎНІЧАЕ КААПЭРАЦЫІ.

Паляўнічая арганізацыя, аж з самага пачатку існаваньня яе, з 1921 году і па 1924 год, увесь час засьмечвалася чужым элемэнтам—кулакамі, спэкулянтамі, нэпманамі і іншымі былымі людзьмі. Нават прыняты і ўведзены ў 1924 годзе статут паляўнічых таварыстваў ня ўлічыў клясавых элемэнтаў і ўсе гэтыя чужыя людзі так і засталіся ў саюзе паляўнічых.

Толькі ў 1925 годзе на Ўсебеларускім зьезьдзе было пастаўлена пытаньне аб рэгуляваньні сацыяльнага складу паляўнічых арганізацый Беларусі і тады зьезд пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі вынес пастанову аб чыстцы саюзу паляўнічых.

Чыстка гэта была праведзена і трохі пазбавіла паляўнічую каапэрацыю ад былых жандараў, паліцэйскіх, папоў, лішэнцаў, спэкулянтаў ды інш., але амаль што не датычылася кулакоў ды іх прыхвосьняў. Пагэтаму патрэбна было правесьці яшчэ адну чыстку, якая адбылася ў 1927-28 годзе і па якой была выключана частка кулакоў, з прыцягненьнем на іх месца рабочых, батракоў ды беднякоў.

У кіруючыя органы паляўнічае каапэрацыі ўвайшлі рабочыя ды бедната, людзі, адданыя Савецкай уладзе ды Камуністычнай партыі. Аднак ня трэба забываць, што ў нашых радох яшчэ засталася частка кулакоў ды ім падобных.



З „дабычай".

8-мы Ўсебеларускі сход упаўнаважаных паляўнічае каапэрацыі пастанавіў не аслабляць увагі клясаваму росту паляўнічае каапэрацыі і сыстэматычна паляпшаць яе склад.

Кіруючыся гэтай пастановай, праўленьне „Белкохотсоюза" дало дырэктыву мясцам выключаць у часы перарэгістрацыі членаў на 1930 год усіх асоб, індывідуальна абкладзеных падаткам, і зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу на ўцягненьне за кошт фонду каапэраваньня бедноты—батраку і беднякаў.

Акруговым праўленьням, раённым калектывам ды сельскім ячэйкам трэба зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу на гэту работу—ды выканаць даную „Белкохотсоюзом" дырэктыву.

**НЯХАЙ ЖЫВЕ ПРАЛЕТАРСКАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ І ЯЕ ШТАБ—КАМУНІСТЫЧНЫ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ!**




Проф. А. В. Федюшин.

# Международная выставка пушного дела и охоты.



В МАЕ будущего года в Лейпциге (Германия) откроется международная выставка пушного дела и охоты. Выставка продлится до сентября 1930 г. Задачи этой выставки заключаются в подведении итогов всем достижениям, какие имеются во всех странах мира, по всем отраслям, связанным с добычей и производством пушного и мехового товара.

На выставке предполагается показать весь сложный процесс добычи и производства пушнины. Одновременно с выставкой пушнины состоится международная выставка охоты, которая должна развернуть перед зрителем всю обширность картины охотничьего промысла во всем мире.

Советский Союз, играющий столь значительную роль в пушном мире, должен выявить свой удельный вес и значение в этой области, показать свои достижения в различных отраслях пушного хозяйства, продемонстрировать на выставке не только хозяйственные достижения, но и наши успехи на научном фронте в области изучения пушного дела.

Для организации нашего участия на выставке Союзным Правительством учрежден специальный комитет при Всесоюзной западной торговой палате в Москве.

По окончании выставки весь собранный материал будет положен в основу создания специального научного музея и кабинета пушного дела. При разработке программы выставки предположено первое место отвести отделу „Меховая торговля“, как имеющему наибольшее значение в мировом пушном хозяйстве. Всех отделов намечено 11, при чем некоторые из них разбиваются на самостоятельные подотделы. С нашей стороны наиболее полно предположено организовать отделы: „Пушные звери СССР“ и „Охотничий промысел в СССР“. Из тем для первого отдела отметим несколько наиболее интересных, как например:

1. Распространение пушных зверей на территории Союза, при чем будет дана общая карта пушной фауны Союза, а также карты отдельных республик, и карты распространения отдельных видов.

2. Густота звериного населения в связи с условиями обитания и развитием пушного промысла. При этом особое внимание будет обращено на методологию учета фауны.

3. Природные условия жизни пушных зверей в разных географических областях Союза: тундры, леса, степи, гор и т. д.

4. Образ жизни, биология отдельных видов пушных зверей (корм, размножение, рост и т. д.).

5. Болезни и эпизоотия среди пушных зверей на воле и меры борьбы с ними.

6. Охрана природы.

7. Исчезающие пушные звери и причины, влияющие на их исчезновение.

8. Карта наших заповедников.

9. Описание некоторых, наиболее интересных, заповедников.

10. Научно-исследовательская работа в области изучения пушных богатств Союза и ряд еще других тем.

В отделе—„Охотничий промысел в СССР“ предположено представить:

1. Естественно-географические условия для развития охоты в СССР в виде карты Союза и отдельных охотничьих областей.

2. Картины природы наиболее типичных охотничьих угодий.

3. Карты распространения промысловых зверей и птиц как по Союзу, так и по отдельным республикам.

4. Карты охотничьих народов.

5. Историю охоты в России.

6. Место промысловой охоты в экономике и бюджете царской России и Союза ССР.

7. Октябрьская революция и национальная политика Советской власти (Экономическое и правовое положение охотничьих народов после революции, рост благосостояния охотников севера).

8. Охотничье законодательство после Октября.

9. Охота и охрана природы.

10. Методы охоты и ловля пушного зверя.

11. Кооперирование охотничьего промысла (карта распространения охотничьей кооперации, рост охотничьей кооперации).

12. Культурное развитие охотничьих народов после Октября и т. д., всего более 25 тем.

Учитывая то обстоятельство, что там придется соревноваться со всеми странами мира не только в полноте наших отделов, но также и в оформлении их—необходимо иметь в виду всю серьезность задачи и трудность ее выполнения в такой краткий срок.

Тем не менее, при активном участии и подготовке к выставке широких масс работников, связанных

с охотничьим и пушным делом, можно надеяться на успешное выполнение столь обширной и разнообразной программы, намечаемой организационным комитетом.

Поскольку БССР также участвует в пушном Советском и мировом рынках, разумеется, мы не можем не участвовать и в настоящей международной Лейпцигской выставке.

Необходимо немедленно же ближе связаться с Оргкомитетом выставки и наметить возможное для нас участие в выполнении принятой программы, тем более, что по некоторым вопросам, имеющим быть представленными на выставке у нас, уже коечто сделано ранее, и независимо от выставки.

Печатая эту информацию, я хотел бы обратить внимание охотников Белоруссии на возможность каждого из них так или иначе оказать содействие нашему успеху на предстоящей международной выставке, для чего Правлению Белкохотсоюза следует ближе ознакомиться с программой и работой Выставочного комитета при Всесоюзной западной торговой палате.

**І. Хадаронак.**

## Да Ўсебеларускай выстаўкі.



ЕНШ як праз год у Менску будзе адчынена Ўсебеларуская выстаўка сельскай гаспадаркі і прамысловасьці. Паляўнічая каапэрацыя павінна скарыстаць гэту выстаўку, папершае, як спосаб шырокага азнаямленьня насельніцтва з паляўнічай гаспадаркай БССР, і падругое, як спосаб найшырэйшай агітацыі за ахову гэтай гаспадаркі, за правільнае карыстаньне паляўнічымі ўгодзьдзямі, за разьвіцьцё гадавальнікаў карысных зьвера і птушкі, за барацьбу з шкоднікамі паляўнічай і сельскай гаспадаркі.

Такія шырокія магчымасьці кладуць на паляўнічую каапэрацыю і вялікія абавязкі. Органы каапэрацыі зьверх да нізу павінны, як сьлед, падрыхтавацца да выстаўкі і скарыстаць той час, які маецца на падрыхтоўку экспанатаў і адпаведнай літаратуры.

Паляўнічая каапэрацыя і, у першую чаргу, праўленьні „Белкохотсоюза“ і акруговых таварystваў паляўнічых павінны паклапаціцца пра тое, каб аддзел паляўнічай гаспадаркі на выстаўцы меў экспанаты, якія-б поўнасьцю адбівалі ўсе віды зьвера і птушкі дазволеных да адстрэлу, зьвера і птушкі—забароненых да адстрэлу з прычыны іх адміраньня ці непамернага зьнішчэньня, а таксама і агульнакарысных для сельскай гаспадаркі.

Усё, што можна паставіць жывым—павінна быць пастаўлена; чаго нельга паставіць у жывым выглядзе—паставіць добра зробленымі чучаламі.

Трэба паказаць найлепш спрыяючыя абставіны гадоўлі на волі і ў няволі найбольш карысных зьвера і птушкі; даць узор гадавальнікаў як трусовых, так і зьвярыных; паказаць карысныя і шкодныя спосабы паляваньня і прылады да іх; паказаць усе прылады здабываньня зьвера і птушкі, апрацоўку шкурак; паказаць адмоўныя бакі паляваньня ў недазволены час як для паляўнічай гаспадаркі, так і для паляўнічага, а таксама наглядна паказаць насельніцтву тую шкоду, якую прыносяць паляўнічай гаспадарцы сумленныя і нясумленныя ўчынкі грамадзян пры гнездаваньні карысных зьвера і птушкі і тую шкоду, якую прыносяць шкоднікі—зьверы і птушкі сельскай гаспадарцы.

На ўсё гэта патрэбен пэўны і адпаведны час. Тэрмін-жа да выстаўкі застаецца, параўнаўча, невялікі для такой работы і таму зараз-жа трэба пачаць працу.

Трэба выявіць, што і як мы дадзім на выстаўку і прыняцца да падрыхтоўкі намечаных экспанатаў і да пабудовы паляўнічага аддзелу выстаўкі ў адпаведным выглядзе. Трэба паставіць задачай арганізацыю адначасова з Усебеларускай выстаўкай выстаўку сабак і правядзеньня Ўсебеларускага стралковага спаборніцтва паляўнічых.

Надыходзячы зімовы сэзон паляваньня павінен быць скарыстан для зьбіраньня экспанатаў так званай аседлай фауны, а з вясны трэба ўзяцца за збор экспанатаў пералётнай птушкі, якая выводзіцца на тэрыторыі БССР.

Праца павінна быць пабудована ў плянавым парадку з прыцягненьнем да яе адпаведных спэцыялістых. Паводле пляну павінны быць дадзены заданьні акругам, а з акруг—у раёны і вёскі ў паляўнічую масу.

Праўленьні „Белкохотсоюза“ і акруговых таварystваў паляўнічых павінны разглядаць справу падрыхтоўкі да выстаўкі як найважнейшую, бо інакш аддзел паляўнічай гаспадаркі на выстаўцы ня дасьць гледачу ўяўленьня нашае паляўнічае гаспадаркі, на адбудову якой Урадам БССР зьвернута адпаведная ўвага.

**Б. С.**

## Як жывем, што робім.

*(Віцебскае акруговае таварыства).*



ЭЗОН паляваньня на Віцебскай акрузе па пяру прайшоў добра. Пагода стаяла ўвесь час спрыяючая, прыплод дзічы быў задавальняючы. Павялічэньне вывадкаў вадаплаваючай дзічы і колькасьць узятых паляўнічымі старых цецярукоў—узнагародзілі паляўнічых за пазбаўленьне вясеньняга паляваньня.

Вывадкі лясной ды балотнай дзічы ўсе-ж такі да пачатку сэзона былі вельмі дробныя (недастаткова выраcшыя) і гэта яшчэ раз сьцьвярджае неабходнасьць адкладаньня тэрміну паляваньня на цецярукоў ды пардву (белую курапатку) з 1-га на 15 жніўня—гэта думка большасьці нашых паляўнічых. Трэба Ц. П. падумаць над гэтым пытаньнем і ўзяць прыклад з РСФСР, дзе хоць і больш дзічы, а па-

ляваньне на балотную ды лясную дзіч пачынаецца ўсё-ж такі з 10 жніўня.

У гэтым годзе Віцебскае акрпраўленьне купіла хату для Бешанковіцкага калектыву ў м. Бешанковічы. У хаце зьмяшчаецца канцэлярыя бюро калектыву, добра абстаўлены магазын-разьмеркавацель і ўмясьціцельная чытальня з дастатковай колькасьцю літаратуры. Мясцовыя паляўнічыя вельмі задаволены набыцьцем гэтае хаты.

Надворныя будынкі пры гэтай хаце і вучастак зямлі даюць магчымасьць абсталяваць гадавальнікі трусоў, службовых ды паляўнічых сабак, якія ўжо даўно ўключаны ў плян работы Віцебскага таварыства. Ужо дастаўлена першая партыя трусоў: шэншыляі—2, белых вяліканаў—2, венскіх галубых—2, фляндр—2, шампань—2 і чакаецца ў хуткім часе паступленьне новай партыі трусоў.

Гэтым пакладзен пачатак справе арганізацыі ў Беларусі прамысловага трусаводзтва.

З сабак дастаўлены шчанюкі толькі дзьвюх парод па аднаму шчанюку і ў сьнежні чакаецца паступленьне шчанюкоў гончых сабак.

Тут мяркуецца зрабіць вальеру для перазімоўкі 50—100 пар шэрай курапаткі.

Зараз праводзіцца чыстка радоў паляўнічых ад чужой паляўнічай каапэрацыі ды Савецкай уладзе элемэнту. Чыстка павінна скончыцца да 15 кастрычніка.

На агульных сходах паляўнічыя калектыўна падпісваюцца на 3-ю пазыку індустрыялізацыі. У сярэднім на кожнага паляўнічага падае па 5 руб. падпіскі на пазыку. На шмат якіх агульных сходах выносяцца пастановы аб здачы да 1-га лістапада па адной скурцы сабакі або кошкі ў фонд пабудовы самалёту „Паляўнічы Беларусі" і гэтыя пастановы ўжо праводзяцца ў жыцьцё.

Ваўкоў у акрузе ня многа; з пяці аблаў адбылося 3, на якіх зьнішчана 8 ваўкоў. Да зімняга сэзону па барацьбе з ваўкамі ўжо прыняты меры і дзе-ні-дзе зарганізаваны атрады, падрыхтаваны камплекты сьцяжкоў.

Слаба праходзіць арганізацыя сельячэек і няпоўнасьцю выкарыстан фонд каапэраваньня беднаты—вось галоўныя моманты бліжэйшай работы акрпраўленьня, на якія неабходна зьвярнуць увагу.

Неабходна папоўніць раённыя бібліатэчкі, зрабіць перасоўкі, ажывіць насьценгазэту, замёршую за летні пэрыяд.

Набліжаецца сэзон загатовак пушніны, а ў нас няма яшчэ ні плянаў, ні паказаньняў, з кім мы будзем працаваць па загатоўках у гэтым годзе, ні справаздач па загатоўках пушніны ў мінулым годзе—гэта ўжо віна Ц. П. Белкахотсаюзу зьверагадоўчай ды паляўнічай каапэрацыі. Трэба Ц. П. раскачацца ды нешта зрабіць. Віды на выхад пушніны ня з вельмі добрых, але лепш мінулага году і плян будзе выканан поўнасьцю.

---

## Дапаможам шэрай курапатцы.

Усе ведаюць, што шэрая курапатка вельмі кволая птушка і гіне яна, галоўным чынам, узімку, калі вялікія маразы прымушаюць яе шукаць корму на чыстых ад сьнегу мясцох, на ўзгорках.

Тады гэтая птушка лёгка пападае ў лапы, а бывае і ў рукі двуногага ці іншага драпежніка. Ніякія законы ня прынясуць ёй карысьці да таго часу, пакуль ня возьмуцца за абарону шэрай курапаткі самі паляўнічыя. Мая думка такая, што кожны паляўнічы павінен у вялікія маразы ня толькі падкармліваць шэрую курапатку, а і захаваць яе ад маразоў, трымаючы яе дзе-небудзь у пуні да вясны.

Такім чынам кожны паляўнічы, пратрымаўшы 1-2 курапаткі зімой, у будучым годзе будзе мець ужо цэлае статка іх на сваім вучастку і на працягу некалькіх год курапатка разьвядзецца ўсюды.

Вядома, ня трэба курапатак чапаць, калі ў гэтым няма патрэбы, калі цёплае надвор'е і трэба выпушчаць іх у гэты час з няволі.

**К. Бочак.**

## Зьявіліся дзікі.

*(Барысаўскі раён).*

Ва ўрочышчах Вялікі лес, Равіна, Рабінішча ды Калюжыншчына зьявіліся дзікі. Дзікі пераходзяць з вурочышча ва ўрочышча. Улетку яны далі пачуць аб сябе сялянам ды папсавалі дзе-ні-дзе жыта, бульбу ды інш.

Ужо знайшліся „дабравольцы" пабегаць за імі ды падстрэліць якога колечы.

**Сьцяпан Глушэц.**

## Захаваем шэрую курапатку.

Суровая зіма мінулага году цяжка адбілася на шэрай курапатцы. Калі ў мінулым годзе яна сустракалася на кожным, мала-мальскі падыходзячым месцы, дык у гэтым годзе яе цяжка знайсьці на Віцебшчыне. Такое становішча з шэрай курапаткай мусіць адчувацца і ў іншых акругах Беларусі.



Гэтыя акалічнасьці падштурхнулі працаўнікоў паляўнічае каапэрацыі і асобных паляўнічых Віцебскае акругі зрабіць захады для захаваньня шэрай курапаткі ад поўнага яе зьнішчэньня і дабіліся ад АКРЗА забароны адстрэлу на 1929 г., што, бязумоўна, будзе спрыяць яе памнажэньню.

Прыклад Віцебскай акругі павінен быць падхоплен і астатнімі акругамі Беларусі, бо інакш шэрая курапатка зьнікне зусім.

**Кошко М.**




**М. Алексеев.**

## В защиту гончих.



В № 8 журнала „Паляўнічы Беларусі“ Б. М. Криштафович ополчился на излюбленные у нас породы охотничьих собак: пойнтера и гончую и предлагает заменить их курцхаром или лайкой.

Как ни уважаю я Б. М. как опытного старого охотника, но в этом случае согласиться с ним никак не могу.

Универсальной собаки нет. Универсальным не может быть ничто живое, равно как не может быть человек универсальным работником.

Если незнакомый с охотой с лайкой прочтет литературу о ней, то он увидит, что лайки разделяются на: медвежатниц, зверовых и птичьих. Охотники-сибиряки различают, даже, по некоторым, им одним известным признакам, какая сабака и для какой охоты будет пригодна? Зверовая собака должна обладать широким поиском, разыскивая зверя, она на несколько верст уходит от своего хозяина, но никогда не потеряет его. Медвежатница, кроме того, должна быть исключительно злобна и сильна. Птичьей собаке укорачивают поиск и, поэтому, на зверовой охоте она делается уже недобычлива.

Пойнтер, выpощенный для охоты, а не для лежания на подушке, никогда холода не побоится, а о сеттере и говорить не приходится.

Я знаю многих охотников, которые ходят со своими пойнтерами глубокой осенью, иногда даже по первому снегу и их собаки такую охоту переносят прекрасно. Преимущество резвой собаки над тихоходом, как более быстро обыскивающей большую площадь—неоспоримо. Сами курцхаристы все время добиваются ускорения хода своих собак, для чего усердно подмешивают им кровь пойнтера и, пожалуй, скоро доусердствуются до того, что курцхарной крови у них совсем и не останется. Что же касается стиля работы, то первенство здесь, конечно, за пойнтером из всех пород.

О средневековых инквизициях, производимых над резвыми собаками, чтобы уменьшить их резвость, первый раз слышу и очень бы интересовался узнать, где и кем такие производились.

Если говорить о приближении к универсальности, то универсальной собакой можно скорее назвать гончую. Кроме работы по зверю, она великолепно работает по уткам, а у многих охотников-промышленников облаивает даже тетеревей и рябчиков.

В Сибири гончих до сих пор не знали, но за последнее время спрос на них появился и там. Возможно, что, попав в руки сибиряка-промышленника, гончая научится работать и по мелкому зверю. Я знал гончих, которые, загнав кошку на дерево, облаивали ее по целым часам. Разве это не задаток?

Для добычливой охоты, гончая должна быть, главным образом, породна и затем, конечно, хорошо нагонена. Опытному охотнику убить с такой гончей лисицу—не случайность. Примером этому может служить охотник из-под Руденска Михаил (фамилию не запомнил), взявший в прошлом году с гончаком „Дунаем“ завода питомника Белкохотсоюза 11 лисиц.

Есть очень простой способ охоты на лисицу: итти рано утром на норы, заткнуть их и оставаться близ нор, пустив собаку в лес, а где находятся норы, хороший охотник знает всегда.

Заяц от хорошей гончей не отвертится никогда и обязательно попадет в торока к охотнику, даже и не особенно опытному, если только тот прилично стреляет. Следовательно охота будет здесь не менее добычлива, чем самотропом, и куда интереснее и увлекательнее.

В № 6 журнала в статье „Ці патрэбен нам гадавальнік“ те же нападки на гончую. Автор ее, видимо, мало знаком с охотой с гончими. Ссылка же на Н. Н. Челищева совершенно не удачна. Н. Н. Челищев в своей книге указывает, как нужно нaганивать стаю или, вернее, вспоминает, как готовили гончих в старину, когда большой стаей брали выводки на логовах живьем. Такая охота в настоящее время, конечно, не мыслима, так как такие стаи держать некому.

Охотиться с одной собакой на волков, конечно, нельзя, особенно там, где их много. Такая охота на волка с собакой быстро перейдет в охоту волков на собаку и последняя будет разорвана. Охота с 3—4 собаками, при достаточном количестве охотников, человек 5—6, вполне возможна. В уймистых местах, молодые волки—будут ходить под собаками на кругах и легко будут биты.

У породной гончей русской и англо-русской, страсть и злобность к волку в крови. Если же одно два поколения их волков не гоняли и даже не видели, это ровно ничего не значит. В Англии за последнее время с фокс-терьером в норах почти не охотятся, а потомки купленных там чистокровных фокс-терьеров как у нас, так и в Германии, работают в норах превосходно.

Выжлец однопометник Флейты, принадлежащий Белкохотсоюзу от производителей—Трубача Хлебникова и Затейки Мацкевича самый лучший и злобный гонец по волку в стае доктора Корниловича в Новохоперске (стая эта состоит наполовину из русских и наполовину из англо-русских гончих), а Трубач и Затейка волка в глаза не видали. Если есть задатки в крови, развить их ничего не стоит.

Что на гончих нет спроса, тоже не верно. Кто выводит сейчас щенков от действительно породных собак, у того они на расхват от 30 до 50 р. за щенка.




М. Я. Цэлеш.

## На радзіме журавоў.

*(Нарыс).*



ЯЛЫНІЦКІ раён у адносіне паляўнічай гаспадаркі можна падзяліць на дзьве часткі. Паўночная частка раёну—гэта мясцовасьць малалесістая, ня вельмі забалочаная. Па ўзгорках поля тут расьце беразьняк, верасы—вельмі добрыя для гнездаваньня шэрай курапаткі. Такі краявід цягнецца аж за в. Мокравічы ў бок м. Есьміны.

На захад-жа ад Есьміны за в. Вушлава, асабліва каля в. Зазер'я, краявід зусім іншы. Тут пачынаюцца вялікія масывы лесу. Тут, як струны, упіраюцца ў небасвод стагадовыя кражы-сасонкі, мяжуючыся з абросшымі мохам сівымі дзядамі-дубамі, ліпай, вольхай, арэшнікам, грапам ды елкай, і, калі бываеш у гэтых лясох, здаецца, што лес гамоніць, рухаецца: гушкаюцца кубацістыя вярхушкі на срэбраных, неймаверна высокіх ды гонкіх ствалох „пальмаў поўначы"—бяроз, і калышыцца ў ног пад карнямі глеба, шэпча лісьце.

Каб прайсьці такі лес, прыходзіцца, як лані, скакаць з выварацi на выварацьь. Лес цёмны, густы!

Яшчэ я помню, як бывала ў дзіцячыя гады, пад'язжаючы к гэтаму лесу за снапамі ці сенам, калаціласе сэрца. Адтуль цэлымі статкамі выходзілі дзікі на бульбу ды мядзьведзі—на авёс. Яшчэ бацька мой узбройваўся „калатушкай" ды хадзіў пільнаваць пасеяны пад лесам авёс ад мядзьведзяў уначы, бульбу ад дзікаў. Для гэтага на елках ці дубох рабіліся спэцыяльныя вышкі і, калі мядзьведзі прыходзілі пакаштаваць салодкага зерня аўса, адтуль білі ў калатушкі, крычалі і мядзьведзі ўцякалі ў лес. Яшчэ дзед мой гаварыў, што на двор да яго ўначы заглядалі мядзьведзі.

Былі лясы, лясы цёмныя, страшэнныя, няпрыступныя!

Але пад тапаром чалавека схілілі свае галовы гіганты-кражы. А мядзьведзі, а ласі, а козы? Яны бязьлітасна, неразумна зьнішчаны тым-жа чалавекам.—Паны прыязджалі здалёку сюды ды нагайкай гналі людзей на аблавы на мядзьведзяў ды ласёў, і зацiх лес! Год пятнаццаць ня паказвалася тут мядзьведзя і толькі ў гэтым годзе, мне казалі сяляне, зноў зьявіўся адзін.

Навокал гэтых зазерскіх лясоў, як, напрыклад, Лядзінка ды Астравы, распасьцёрліся непраходныя „галыя" балоты—*радзіма журавоў*—не пачаты край работы для гідратэхніка, мэліаратара, агранома. Яны цягнуцца на дзесяткі кілёмэтраў, аж за в. Глыбокае і далей, некуды, аж пад г. Чэрвень. Канца меры няма ім.

Галыя балоты!

Скора і тут загудзе трактар, парастуць агуркі. А цяпер яны сапраўды галыя. Толькі дзе-ні-дзе тырчаць карлюкавыя сасоначкі з мяккага белага моху, па якому, па краёх балот, параскіданы кусьцікі верасу, дурнічніку. Пад нагамі валяюцца, як на нітку пачэпленыя, журавіны. Іх ніхто ня зьбірае, яны гніюць, прападаюць за дарма.

Колькі тут цецярукоў, пардвы (белая курапатка)? Увосень, калі выпадзе першы сьняжок і зямля пакрыецца ледзяной шалухой, цецярукоў тут я налічваў сотнямі. Яны вылятаюць з балот і сядзяць на бярозах, як вароны. Мясцовыя сяляне не палююць на птушак.—„Ня варта зарада псаваць"—гавораць яны. Хіба браканьер скрадзе глушца на таку ці цецярука з будкі, гусь дзікую на пералёце каля возера.

Птушкі тут плодзяцца, разьлятаюцца і гінуць самі па сабе. І ціха на балоце,—ні стрэлу, ні гуку! Блішчыць на сонцы белы мох, а ўзімку сьнег. Толькі вясной ажывае яно. Тады забалбочуць цецярукі, „заточаць" глушцы, „закурлыкаюць" журавы. Калі выйдзеш з хаты палюбавацца вячэрняй зарой, з балота нясуцца мэлёдычныя гукі „кур-лы-ы-м, лу-у-р-л-ы... кур-л-ы-м, к-у-р-л-ы-м"—нібы нейчая рука дакранулася да наведзеных струнаў цудоўнага музычнага інструманту. Усё лета курлыкаюць журавы—спачатку старыя, а потым вывадкі.

Раніцой 25 жніўня мы вышлі з в. Зазер'я на паляваньне. Шырака расхіналіся грудзі ды ўсмоктвалі пахнуўшае хлябамі ды сенажацямі паветра. Пасьля канцэлярскіх дзебраў ды пыльных вуліц гораду прыемна было прагуляцца па полю з дубальтоўкай за плячмі, і мае ногі не датыкаліся, здаецца, да зямлі, усланай пухавымі травамі.

Неяк раптам павісла ў паветры мяккае, музычнае—„к-у-р-л-ы-ы-м... к-у-р-л-ы..." і паплыло, пакацілася за лес.

— „Журавы",—сказаў бацька.

Я абагнуў маленькае балотца і стаў падкрадацца з-за елачкі да іх. Мяшае сабака.—„Пашоў вон,"—крыкнуў я і пагразіў яму палкай. Сабака лёг. Калі я высунуў галаву з-за елачкі, крокаў на 150 ад мяне стаялі пяць вялікіх шэрых, нібы сызаватых, птушак, задраўшых галовы ўверх ды патрасаючы паветра сваім „курлы".—„Эх, шкода, што няма фотаапарата",—падумаў я. Я папрабаваў падыйсьці яшчэ

бліжэй, але яны ўбачылі мяне і цяжкімі ўзмахамі крыльляў падняліся, зрабілі паўкруга на адным месцы і ўляцелі на балота.

Білася сэрца, гледзячы на гэтую прыгожасьць прыроды!

Я дагнаў бацьку, і мы ўвайшлі ў баравіну. Я захапіўся паляваньнем і забыўся аб журавох, якія ўсё крычалі на балоце.

Мы ўзагналі вывадак рабцоў. Рабцы расьселіся на бярозах і я, да болі ў вачох, прыглядаўся, каб убачыць хоць-бы аднаго. Але мяне выручыў бацька. Сяляне куды лепш бачаць, чым мы гарадзкія. Ён паказаў закарузлым пальцам на сук бярозы, і я ўбачыў распластанага на ім рабца. Лёгкі трэск пакаціўся па лесе, і рабец скора апынуўся ў мяне за поясам.

У гэты дзень мы шмат знаходзілі маладых глушцоў, цецярукоў, пардвы. Тут яшчэ і зараз можна браць з-пад легаша на адну стрэльбу 50 шт. добрай дзічы. Можна выпусьціць сотні патронаў. Пакуль ня пройдзе па „галых“ балотах гідратэхнік, мэліаратар з лінейкай,—дзіч будзе пладзіцца, разьлятацца ды гінуць тут сама па сабе.

Мне прыходзілася бываць у лісьцёвых лясох і я зьдзіўлен вялікай колькасьці вавёркі. Калі на 30 кілёмэтраў кругом Менску ў лесе сустрэнеш за дзень 2—3 вавёркі, то гэта добра. Там, я за некалькі гадзін бачыў іх два-тры дзесяткі. Шмат нор барсукоў ды лісіц. Каля в. Зазер'я ў гэтым годзе былі тры вывадкі ваўкоў. Па р. Можы, якая зьяўляецца сплаўнай рэчкай ды загружана паленьнем, шмат выдраў. Летась адзін паляўнічы забіў іх 6 ці 7 шт. Некалі на гэтай рэчцы былі хаткі баброў, але паразбураны сплавам лесу. Кажуць, што адзін зьявіўся залетась, але быў забіты браканьерам, які панёс суровае пакараньне. Лосяў, дзікаў ды коз тут не сустракаецца.

На возеры „Зазер'я“ ўвосень шмат вадаплаваючай дзічы—качак, нырцоў, гусей, быў забіты нават адзін паморнік. Як ён апынуўся на гэтым возеры—, невядома. Шмат гусей б'юць сяляне ўначы з падходу, бо гусі выплываюць на бераг жыраваць журавінамі.

Праз некалькі дзён я ехаў на вакзал. Па гразкай, усланай паленьнямі грэблі трасьліся і скрыпелі калёсы.

— Ну, бывай, мая радзіма—радзіма жураўоў! Калі яшчэ раз мне прыдзецца пабываць на тваіх грудзёх?

---

М. Пасьлядовіч.

## Стары „з Новага Сьвету“.



НА зямлю сыплецца пажоўклае лісьце дрэў.

Ветру няма. Стаіць задуменнай бяроза. Рэдкі ў гэтым лесе клён жаўцее верхавінаю паміж асіньніку. Павольна ападаюць на зямлю лісты. Іх тоўстая пасьцілка гучна шапаціць пад нагамі. Гэта добрая перасьцярога для зайцоў, якія прыбіліся ў гэты лес з поля, дзе людзі канчаюць выбіраць бульбу. Але пакуль што, ніхто ня грыміць стрэлам па зямлі і шаракі, часта прысядаючы, каб адчуць, у якім баку небясьпечна, кульгаюць у больш спакойнае месца.

Восень шчыра сыпле на зямлю залатыя прамяньні. Даўно ўжо ня было дажджу і, на аголеным вецьці дрэў, завісьлі белыя ніткі павучыньня. Толькі дуб упарта ня хоча расставацца з сваім высушаным лесьцьвяным адзеньнем.

— Ото-ж стралец! Ня ведае, за чым пайшоў...

З боку ўзьняліся з лопатам і зьніклі за кустамі цецярукі. Я зусім забыўся, за чым прышоў у гэты лес.

— Столькі шукаць, каб палыкаць толькі сьліну! Ну, я больш і ня думаю ісьці! Разьбіваю „лягер“ пад гэтым дубам.

Гарэзьлівыя сойкі, якія, шукаючы тут жалудоў, будзілі лясную ціш,—кінуліся ўпрочкі ад дубу. Толькі адна—ніто нягега, ніто вельмі цікавая, яшчэ доўга сядзела на дрэве, падазрона аглядаючы нас.

— І чаго, каб хто спытаў, яна так цікавіцца намі?—злаваў ад няўдачнага паляваньня на цецярукоў мой сябра Сьцяпан.—Каб гэта была добрая птушка, дык хоць прывяжы, яна тут ня „ўседзіць“, а то гэта... Паспрабую, ці адразу сёньня кладзе мая гармата.

Ён падняў сваю дванаццатку, мерачыся ў скручанае ад сьпеласьці дубовае лісьцё. Сойка, як і раней, спакойна глядзела нямігаючымі чарніцамі вачэй на бліскучую сталь рулі. Потым гарэзьлівым голасам рэзнула нярухомае паветра і зьляцела яшчэ ніжэй.



З памоцнікамі.

— Каб на цябе ўпад пайшоў! Ці ня ручная якая халера? Ог, і рабі што хочаш! Ці не знаёмства завесьці?..

Раптам наш сабака, які спакойна ляжаў, чакаючы ежы, загырэзў і ўжо зьбіраўся кінуцца ў бліжэйшыя кусты, дзе нехта шуршэў сухім лісьцем.

— Можа воўк?

— Які вам воўк,—пачуўся з кустоў голас.—Тут гэтай зьвярыны няма.

Сівенькі дзед, з граблямі ў руках, падышоў да нашага прыстанішча.

— Гэта я тут лісткі зграбаў скаціне на подсьціл. Усё больш гною будзе.

Ён дастаў скрутак з табаком. Уважліва аглядаючы нас,

пачаў круціць папяросу. Доўгі час сьлюніў край паперкі. Потым сеў на вытаркнуты з зямлі корань.

— Пасяджу тут каля вас. Я сам з калгасу „Новы сьвет“. Тут за гэтым ляском недалёка. Ужо чатыры гады, як жывем разам.

— І нішто жыцьцё? Лепш чым раней, паасобку?

— Дзіва што.

— І ня сварыцеся?

— Няма ўжо з-за чаго сварыцца. Цяпер ніхто нікому не заверне мяжу, бо яе ўжо няма—поле агульнае. Агульная скаціна, трактар. Сёлета млын пабудавалі.

— А ежу асобна варыце?

— Яшчэ ня было работы! А грамадзкая кухня, сталоўка навошта? Жанчынам-жа зноў вальней і дзяцей у яслі, а самі бяз клопатаў на рабоце. Ці, калі ўжо няма работы, у клюб. Кніжкі, газэты, радыё...

Лясны спакой парушыў лопат матору. Наш сабака ўстрывожана наставіў вушы.

Дзед ухмыльнуўся ў сівую бараду.

— Гэта наш трактар лапоча па дарозе. Едзе сюды, каб забраць сухастой і лісьце. Хадзем, паглядзеце нашага „каня“.

Мы вышлі на дарогу. Сонца асядала над зямлёю. Больш чырванеў захад і сінела неба на ўсходнім небасхіле. Над нашымі галовамі сьвіснулі гнуткім крыльлем качкі.

— Гэта яны на возера ляцяць,—сказаў дзед.— Трэба будзе прайсьціся заўтра раньнем.

— Хіба вы паляўнічы?

— От, страляю з большага, калі час ёсьць. Мне цяпер не даюць работы, кажуць,—табе, дзедка, адпачываць ужо трэба. Але дзе ты ўседзіш! Зайздрасьць нейкая на работу ў камуне пашла. Ніхто гуляць ня хоча. А так—прайшоўся-б і я са стрэльбай...

Поўным ходам прылапатаў пад нас трактар. Трактарысты, малады здаровы хлапец, ветліва ўхмыльнуўся супыняючы сталёвага каня, да якога была прычэплена вялізная каламашка.

— Садзіся, дзедка Сымон! Забярэм дрэва, ды паедзем на вячэру.

На перасьцежкі праз поле мы ішлі на чыгуначную станцыю. У блакітнай дымцы пачаў зьнікаць лес, дзе мы сустрэліся з камунарам Сымонам. Голым, здратаванае капытамі скаціны, выглядала поле. Ад ледзь прыметнага ветру шалясьцеў на межах быльнік.

— Но-о, каб цябе ваўкі выразалі. Няма табе ўтхланьня, каб на цябе ўпад пайшоў...

Вузкая, вузкая палоска. Упоперак ня станеш з канём. Пасярэдзіне горб, а каля межаў—равы. Згорблены конь, напінаючыся з усіх жыл, цягнуў паломлены старэнькі плужок. Галоднымі зубамі каняка лапае па гнілым быльніку.

Гэта старая вёска ўзорвала на зіму старэнькі неўраджайны загон...

А далёка, каля лесу, блішчэлі пад вячэрнімі восенскімі праменьнямі сонца цынкавыя стрэхі камунарскіх будынкаў.

---

**А. Клеевский.**

## Восьмой и последний.



СЛОЖИВ руки шалашиком, охотник раскуривал трубку, когда волк опять появился, но уже значительно правее лесного массива. Пересекая полосу мелких озер, он уходил на запад, к цепи пустынных холмов, в отдаленную часть местности.

Тяжело вбирая воздух приmороженным носом, охотник опять побежал. Отчетливость холодного блеска озерных льдов становилась ярче. Необходимый по ходу преследования резкий поворот вправо чувствительно облегчил бег. Ветер, ранее боковой, теперь поддувал в спину. По частым уклонам лыжи скользили легко, с плавным ритмическим посвистом.

Покрывая пространство с максимальной скоростью, охотник во время достиг выгодного рубежа. У крутого залома опушки чахлого елового перелеска он занял выжидательную позицию. По его соображениям зверь, вот-вот, должен был показаться слева. Твердая уверенность в правильности расчетов укреплялась сознанием не случайности их построения. Данная ситуация представлялась аналогией многих других,—уже ранее бывших. Ее обоснованность богатством опыта многолетних удачных охот порождала веру в близость победного финала. Большая, лишенная всякой растительности поляна, ни на миг не выходила с поля зрения стерегущего.

Отдохнувший в затишьи опушки слух вскоре чутко поймал цокающие шумы. Желание установить их причину заставило охотника резко и круто повернуться. Ощущение острой боли в затекших членах, вызванное движением, было лишь мгновенным. Чутко реагируя на указания слуха, охотник весь ушел в созерцание ближайшей котловины, обрамленной в форме подковы гибким молодняком. Простор недавно пройденного полевого пространства синел в предвечерьи пустынно. В бледно-лиловых побегах осинника опять хрустнуло,—и в следующее мгновение волк вынырнул на чистое пространство.

Лицо охотника, выражающее смесь досады и изумления, плотно прижалось к ложе ружья. Понимая намерение волка скорее скрыться в очередном овражке, охотник выстрелил, взяв прицел поверх тщедушной сосенки,—в голову зверя.

Маленькое облачко снежной пыли показало недолет. Оно взметнулось очень близко у цели, но все же заряд опоздал и восьмой, последний из стаи, уже стрелянный трижды, легким размашистым скоком опять уходил прямиками в редколесье широкого лога.

Восьмой и последний не давался охотнику! От семи его товарищей остались только сухие шкуры. Восьмая, и самая большая шкурка, все еще грела сильное и гибкое тело злобно-голодного зверя. Это обстоятельство не на шутку волновало охотника. Охотничий сезон близился к концу и следовало торопиться в изобретении способа прикончить и этого зверя.

Некоторое время охотник в окружающем пейзаже силился отыскать признаки знакомых черт. Однотонность созерцаемой картины увеличивали сумерки.

З возрастающей быстротой они крали предметы. Небосклон зеленел быстро,—к морозу.

Охотник побежал, взяв курс на неясные и далекие контуры лесного массива. Часто останавливаясь, он прислушивался. На безлюдным пространстве неизменно стояла гнетущая тишина.

Над тонкими иглами елового сухостоя всходила тусклоликая, в бледных-бледных кругах, казавшаяся ему—утомленному охотнику пустым оком голодного волка—луна.

На далеких озерах хрупкие кромки ледяных изразцов отливались холодной синью.

В полночь, дремавший у потухающего костра охотник,—вздрогнул. Далеко-далеко за бледно-фиолетовыми очертаниями холмов—завыл волк. На голос зверя никто не отзывался. Звуки плыли одинокими. Охотник молча сидел у оранжевых углей костра и долго-долго слушал прощание с равниной обреченного зверя. Кроваво-желтая луна уходила к долинам. На озерах блекли холодные блески. Рассвет приходил тихим люто-



Схаваўся.



морозным. В блестках инея осинники стояли воздушными коллонадами.

На восходе большого в пурпурных облачках январского солнца полузамерзший охотник в диком суходоле нашел мертвого зверя.

Опытный взгляд охотника сразу установил отравление стрихнином. Зверь околел на месте. Страшно изогнутое, ввиде французского эс, тело зверя показалось охотнику жалким. Через час, имея за плечами волчью шкуру, охотник опять уходил в неизведанные дали бледно-синих пространств.

---

## Волки в Германии.

В середине прошлого столетия волки в Германии были истреблены почти по всей территории. Даже такая гористая и лесистая область, как Бавария, видела последнего волка в 1852 году. Только пограничные восточные области долго еще посещались волками, благодаря проникновению их из России. Последний волк в Силезии был убит в 1885 году. Последний волк Западной Пруссии—1864 г.

89 волков (45 кобелей и 44 суки) были убиты в период с 1870 года до 1890 года. С 1890 года по 1910 год было убито еще 12 волков в области Гумбинен.

Оккупация Эльзаса и Лотарингии содействовала новому появлению волков в Германии. Против них были организованы энергичные меры борьбы и систематическое истребление. С 1871 года по 1872 г. в одной Лотарингии было уничтожено до 500 волков. Выводок волков был уничтожен в 1875 году в области Кобленц. Премии за уничтоженных волков уплачивались государством до 1884 г.

В период последней мировой войны волки вновь появились в Германии и именно в Восточной Пруссии. По данным Германской охотпечати, 25 волков было добито с 1922 г. по 1928 г. Все посты лесничих были связаны телефоном, благодаря чему можно было быстро организовывать облавы. Борьба с волками в зимнее время ведется успешно, но летом, когда вред, наносимый волками охотничьей дичи, особенно велик, борьба с ними чрезвычайно затруднительна.

Из 25 матерых волков убито в последние годы было 5 волчиц. Все убитые волки с немецкой аккуратностью и точностью были измерены и взвешены. Наименьший вес волка отмечен в 32,5 килогр., самый большой—48 клгр. Наименьший вес волчицы—27,5 клгр., максимальный вес—39 клгр. Обмеры волков дали следующие результаты: матерые кобели высота в холке—76 снт., длина—1,95 снт., длина суки—162 снт., высота в холке—80 снт. Самый большой матерый волк с истертыми клыками достигал в холке 93 снт. и весил 41 клгр.

М. З.

# СОВЕТЫ ОХОТНИКУ и РЫБОЛОВУ

## Охота на зайцев*).

В зависимости от выносливости и силы гончих, а также от погоды и состояния тропы охота с гончими по зайцам может производиться от зари до зари. Однако лучше, в особенности ранней осенью, когда еще тепло, в середине дня дать отдых собакам и отдохнуть самому.

Охота с гончими прекращается обычно с выпадением глубоких снегов или с наступлением крепких морозов.

На зайцев охотятся и с одной собакой и со смычком и, наконец, с целой стаей. В последних случаях крайне важно, чтобы собаки были хорошо сгонены друг с другом, работали-бы дружно, и не вразброд и были бы друг-другу, как говорят, по ногам.

С гончими ходят как в одиночку, так и целыми компаниями. В последнем случае крайне важно, чтобы компания была дружная, хорошо друг друга знающая и достаточно дисциплинированная для того, чтобы не мешать друг—другу.

### Охота в узерку.

Охота эта основана на том, что в иные годы и в некоторых местностях заяц-беляк (на русаков в узерку не охотятся) получает свой полный зимний наряд еще задолго до выпадения снега. Завидеть такого зайца, залегшего где либо в лесу, даже сквозь частый подлесок, очень легко, настолько его окрас резко выделяется среди темного в эту пору фона леса.

В сырую погоду выцветший беляк лежит чрезвычайно крепко и на лежке подпускает к себе охотника почти вплотную, только прижимаясь к земле, при приближении человека, все плотнее и плотнее. Однако, несмотря на это, все-таки стоит посоветовать, подходя к зайцу на лежке, не смотреть на него все время, а, наоборот, делать вид, что идешь как будто бы мимо, вовсе не примечая притаившегося косого.

Особенно бывает удачна охота на беляков в узерку в теплую без заморозков, погоду, когда мягкая почва заглушает шаги охотника. В морозный же день, когда под ногами все время хрустит лед и трещат обледеневшие старые листья, охота в большинстве случаев заканчивается полной неудачей. Даже при большой осторожности охотника и сноровке, ходить тихо в такую погоду, невозможно: заяц заслушивает охотника еще издали и, конечно, покидает свою лежку. Поэтому выходить на охоту в узерку следует только в благоприятную погоду и с таким расчетом, чтобы, как только в лесу станет светло, быть уже на месте охоты.

Разыскивать белых зайцев по черной тропе нужно там, где они преимущественно в это время залегают, т.-е., главным образом, по опушкам леса, в кустарниках около озимей, в окраинах болот, под ветвями сваленных деревьев, под грудами хвороста, возле небольших ручейков и т. д. Места лежки зайцев из года в год приблизительно одни и те же, так что знание мест значительно помогает охоте. Помимо этого зайцы облюбовывают для лежки такие места, которые нравятся не только тому или иному косому, но и всем другим его сородичам.

На охоту по белякам в узерку можно ходить и одному,—если места хорошо знакомы, но лучше вдвоем или втроем, при чем не беда если только один из охотников—с ружьем, а остальные его товарищи буду вовсе без оружия. Роль их в последнем случае сведется к высматриванию зайца на лежке и в подозвании свистом к себе охотника.

Заканчивая на этом описание способов и приемов ружейной охоты на зайцев, остается еще несколько слов сказать о №№ дроби и о стрельбе косых.

Удобнее всего стрелять зайцев дробью №№ 2 и 4 англ. счета. Применение более крупной дроби поведет к чрезмерному разбитию выстрелом тушки зверька, а также и к частым пуделям при стрельбе на больших расстояниях. Мелкая же дробь в особенности зимой, когда заяц одет очень неплохо, даст большой процент подранков и вообще нечистого поражения зверька.

Относительно правил стрельбы по зайцам можно сказать лишь немногое. Остальное же дополнит собственный опыт охотника.

Когда заяц бежит от охотника и стрелять приходится в угонь—нужно целить, смотря по расстоянию, на котором производится выстрел, и скорость бега косого—на вершок, полвершка выше ушей. Если заяц идет прямо на охотника—нужно целить по его передним ногам. При поперечном беге—опять таки в зависимости от расстояния и скорости бега—нужно брать „переда" на несколько вершков, а иногда и на поларшина. В зайца на лежке лучше всего целить на вершок выше и в переднюю часть туловища, в сидящего задом и близко—в крестец, в сидящего боком и близко—в верхнюю часть лопатки, в пятидесяти шагах и более—нужно брать поверх затылка или в голову.

**Н. М.**

## Дешевые винтовки советского изготовления.

До сих пор не было в продаже дешевой винтовки, доступной по цене охотнику-бедняку. Это обстоятельство значительно тормозило развитие как охотничьей, так и спортивной стрельбы. Теперь мы имеем несколько образцов недорогих винтовок советского изготовления. На одной из них я и хочу остановиться.

Это не очень дорогое ружье—казнозарядная мелкокалиберная винтовка под патрон 22-го колибра бокового огня. Ствол круглый, 64 см. длиною, калибр 5,4 мм. Затвор малый скользящий, ложа березовая, цена 31 руб. Весит винтовка 2800 грамм. На стволе клеймо ТОЗ.

Затвор винтовки прочный и экстракция гильз надежная. Система скопирована с германской мелкокалиберной винтовки „Геко" (Геншов и К-о), но ложа винтовки ТОЗ хуже германской потому, что не пистолетная и грубоватая. Прицел не под'емный, хотя, при пристрелке винтовки, можно регулировать прицел по высоте посредством винтика, который поворачивают рукояткой затвора. Мушка с прямыми боками, так что при прицеливании кажется похожей на кончик спички. Березовая ложа протравлена под орех и хорошо полирована.

Работа винтовки вполне удовлетворительная. Стальные части хорошо заворонены.

Винтовка стреляет общеизвестным патроном бокового огня, так наз. „длинный винтовочный" кал. 22, с бездымным порохом. Цена патрона—около 3 коп. штука. Бой винтовки очень хороший, простирается до 400 шагов. Хороший стрелок, при стрельбе с упора, на 125 шагов кладет все пули в круг 11 см. поперечником, на 250 шагов—в круг 30 см. Высшая точка троектории (наибольшее превышение пули, примерно, на половину дистанции) для 125 шагов будет 11 см., для 250 шагов—около 49 см. Вследствие этого, отсутствие под'емного, быстро устанавливающегося, прицела оказывается для охоты очень неудобным и нежелательным обстоятельством. К тому же, на охоте необходимо считаться с малой убойностью пульки в $5^1/_2$ мм. и с чувствительностью ее к ветру. Все же слабозвучность выстрела, хорошая пробивная сила пули, дешевизна патронов и возможность получить их везде,—являются весьма заманчивыми качествами для многих охотников и любителей спортивной стрельбы.

Хотя винтовка стоит 31 р., но снижение цен на эту винтовку еще предвидится. Винтовку необходимо регистрировать в органах милиции. Приобрести можно в упомянутых магазинах, в кооперативах Всекохотсоюза и в спортивных магазинах „Динамо".

**В. Е. Маркевич.**

---

1) Окончание. См. № 9. „Паляўнічы Беларусі".

Н. Рождественский.

## Рыбная ловля зимой.



РИБЛИЖАЕТСЯ зима. Поэтому время подумать о продолжении рыбной ловли и в это время года. Это одинаково относится как к рыбакам-профессионалам, так и к рыболовам-любителям: и те и другие должны подумать о тех способах лова, к которым им лучше всего прибегнуть зимой по условиям их водоемов и соответствующим образом подготовиться.

Постараемся дать несколько указаний как тем, так и другим.

### Ловля сетями.

За границей зимняя рыбная ловля сетями имеет большое распространение как среди рыбаков приморья, так и внутренних вод (озер и рек).

Сети чаще всего расставляются сразу по несколько штук. И опускают их под лед следующим порядком. В намеченном месте вырубают во льду прорубь, диаметром от $1/2$ до 1 метра—это первая *спускная* прорубь; затем на расстоянии длины сети прорубают вторую прорубь несколько меньшего размера (в том, конечно, направлении, в каком предполагают поставить сети) (см. рис. 1). После этого в первую прорубь опускают *шест* и пропускают его под водой в направлении второй проруби. К последнему концу шеста привязывается конец сети. Если этот шест окажется коротким и не достанет другим концом до второй проруби, то необходимо по пути его прорубить две-три маленьких проруби и через них довести шест до конца. Проталкивают шест с помощью маленького шестика с крючком; когда конец большого шеста (плавного) дойдет до второй проруби, шест вытаскивают из воды на лед.



Рис. 1.

Если сеть ставится одним человеком, то конец веревки, вытянутый из второй проруби, следует протащить по льду до первой проруби. Другой конец веревки надо привязать к верхней подборе сети. Эта веревка должна быть в два раза длиннее самой сети. В то время, как рыбак одной рукой тянет за конец веревки, находящийся на льду, другой рукой он должен постепенно спускать сеть под лед. Когда вся сеть спущена в прорубь, следует дать ей равномерно опуститься на дно, сматывая веревку. У другой проруби конец веревки надо обрезать. Под'емный же конец веревки надо намотать на рогульку или палку и вбить в лед по соседству с прорубью.

Если же сеть ставят вдвоем, то работа идет быстрее и сподручнее: один тянет веревку из под'емной проруби (прорубь притонения), в то время, как другой опускает сеть в первую прорубь („поддачу").



Рис. 2.

Таким же порядком ставят сразу по несколько сетей. Только в этом случае нет надобности вытаскивать из воды плавного шеста и сети связываются между собой за концы верхней подборы.

Если почему-либо доставка шестов к месту лова затруднительна или таких шестов нет под руками, можно прибегнуть к следующему способу пропускания веревок и сети (см. рис. 2). Надо взять две садовых лопаты с короткими рукоятками и привязать к каждой из них (к рукояткам) концы спускных веревок. Когда это сделано, опускают одну лопату в спускную прорубь (поддачу) в направлении проруби притонения (несколько в сторону); веревки следует отпустить столько, чтобы лопата, опускающаяся в косом направлении, достигла дна. Таким же путем опускается вторая лопата из другой проруби навстречу первой. На глубине подо льдом веревки должны встретиться и сцепить лопаты. Если после этого вытянуть первую лопату, то за ней поднимется наверх и вторая лопата вместе с привязанной я ней веревкой. Таким путем будет достигнута связь между обеими прорубями. Рисунок 2-й наглядно показывает весь этот процесс.

При проверке сетей надо к веревке у второй проруби привязать добавочный конец такой длины, чтобы его хватило до под'емной проруби (притонения). Это в том случае, если проверку производит один человек. Сеть складывается на краю проруби. Вдвоем проверку производить легче.

Сети лучше всего ставить по краям глубин (омутов, ям и проч.).

Держать сети в воде зимой не следует дольше 2—3 дней. По истечении этого срока их надо вытаскивать и просушивать

## Насьценгазэта каляктыву Рэчыцкіх паляўнічых.

Рэцэнзуемы намі апошні нумар насьценгазэты каляктыву Рэчыцкіх паляўнічых зьмяшчае 26 заметак. З іх аб браканьерах—каля 10 заметак, самакрытыка—каля 5 і апошнія аба ўсім іншым.

Няма ніводнай заметкі аб тым, як праходзяць сацыялістычнае спаборніцтва, конкурс па зьнішчэньню драпежнікаў, чыстка паляўнічых радоў ад чужога элемэнту.

А гэтыя тры задачы зьяўляюцца галоўнымі ў рабоце органаў паляўнічай каапэрацыі наогул і Рэчыцкага каляктыву паляўнічых—у прыватнасьці.

Газэта Рэчыцкіх паляўнічых і павінна зварачваць вялікую увагу на гэтыя галоўныя задачы, у кожным нумары дакладна асьвяшчаючы іх, растлумачваючы паляўнічым аб іх вялікім значэньні як для нашае паляўнічае каапэрацыі, так і для ўсёй нашай народнай гаспадаркі.

Таксама ніводнай заметкі ня прысьвечана, як праходзіць падпіска на 3 пазыку індустрыялізацыі краіны, ня гледзячы на вялізарнейшае палітычнае значэньне гэтага пытаньня.

Упушчаны газэтай і надыходзячыя пушныя загатоўкі, а гэтага не павінна быць. Паляўнічы павінен ведаць, што скуркі здаюцца паляўнічымі толькі ў сваю каапэрацыю.

Наогул трэба сказаць, што газэта Рэчыцкіх таварышоў паляўнічых зьяўляецца старэйшай насьценгазэтай у паляўнічай каапэрацыі, мае ўжо шмат дасягненьняў і, калі яна больш удала будзе асьвятляць жыцьцё свайго каляктыву і тыя задачы, якія стаяць перад паляўнічай каапэрацыяй, то яна стане і лепшай.

**Цэлеш.**

# АБМЕН ВОПЫТАМ

## Змагаемся з браканьерамі ды драпежнікамі.

*(Чарневіцкая сельячэйка).*

З часу сваёй арганізацыі Чарневіцкая ячэйка паляўнічых узялася за знішчэньне драпежнікаў паляўнічай гаспадаркі і было шмат зьнішчана бадзячых сабак ды кошак. Сабакі сталі выводзіцца сялянамі на поле толькі на прывязі.

Але, як пачалося паляваньне, барацьба з драпежнікамі аслабела. Ячэйцы неабходна зноў узяцца за гэту справу.

Ячэйка імкнулася знайсьці логавы ваўкоў, але, пакуль што, гэта імкненьне засталося бяз вынікаў.

Змагаемся з браканьерамі. У райкалялктыву быў падан сьпіс на 18 браканьераў аб адабраньні ад іх стрэльбаў. Браканьеры, пачуўшы аб гэтым, сталі перці ў саюз. Вось тут ячэйка і павінна прадуглядзець, што з сабой нясуць гэтыя людзі і для некаторых закрыць дзьверы саюзу паляўнічых.

Сельсавет ня толькі не дапамагае працаваць, але і мяшае. Замест таго, каб дапамагчы паляўнічым зьнішчыць бадзячых сабак, якія, апроч іншага, разносяць і шаленства, сакратар сельсавету Чалей займаецца зубаскальствам, злуе на паляўнічых, што яны забілі сучку яго дзядзькі. **Сьцяпан Глушэц.**

## Як ня трэба рабіць аблавы.

Субота—рыхтуемся на паляваньне. Раптам пісулька ад Забашавіцкай ячэйкі, Барысаўскага раёну паляўнічых: „У нядзелю аблава на ваўкоў у Палелюмскай дачы. Збор на хутары Бярозавы Мост а 9 гадзіне. Яўка ўсім паляўнічым абавязкова“. Насьпех рыхтуемся да аблавы. Назаўтра двое паляўнічых зьяўляецца на месца збору. Толькі двое, а дзе-ж астатнія? Яны нейдзе палююць па качках ды цецярукох. Яны ня ведалі аб аблаве. І так аблава не адбылася. З гэтага трэба каму-небудзь зрабіць належныя вынікі. **Сьцяпан Глушэц.**

## Забіта пяць ваўкоў.

*(Бялыніцкі раён).*

Шмат шкоды рабілі ваўкі сялянам у Бялыніцкім раёне. Сабраліся паляўнічыя ды парашылі пазбавіцца ад гэтых шкоднікаў. Зрабілі там-сям падвыўку і ваўкі адгукнуліся ў Цяхцінскай дачы.

29 верасьня 17 паляўнічых і 49 загоншчыкаў ціха падышлі да месца аблавы. Стральцы сталі на „нумары“, па лесу пакацілася рэха загоншчыкаў, і ваўкі пачалі выскакваць на стральцоў. У выніку былі забіты 5 маладых ваўкоў, а старыя вышлі з абкладу.

**Ляхаўскі П.**

## І тут шэсьць.

*(Круглянскі раён).*

На зробленай 21 верасьня Круглянскім калялктывам паляўнічых аблаве забіта 6 ваўкоў, з іх—дзьве ваўчыцы. Шмат ваўкоў параненымі вышлі з абкладу.

Хаця аблава і ўдалася, але заўважваецца незацікаўленасьць да гэтай справы насельніцтва.—„Гэта іх, паляўнічых справа“—гавораць сяляне і туга ідуць на аблаву.

„Белкохотсоюз“ павінен зьвярнуцца да мясцовых органаў улады з лістам аб дапамозе паляўнічым у правядзеньні аблавы. **Крывялёў.**

## Толькі калектывам магчыма працаваць.

32 працаўнікі Неманіцкага лясьніцтва на агульным сходзе заявілі — „Толькі калектыўна магчыма вядзеньне сацыялістычнай паляўнічай гаспадаркі“, калектывам уступілі ў саюз паляўнічых і пастанавілі: 1) Ніводнага браканьера ў лесе. 2) Рашучая барацьба з драпежнікамі. 3) Ахова дзікай жывёлы, каштоўнай ды карыснай для паляўнічай гаспадаркі. 4) Арганізаваць у межах лясьніцтва ў працягу першых двох год заказьнік. 5) Здачу здабытай пушніны—толькі дзяржаўным загатаўцам. 6) Праводзіць культасьветную працу сярод паляўнічых сялян. 7) Арганізаваць пры лясьніцтве куток паляўнічага. 8) Калялктыў выклікае на сацыялістычнае спаборніцтва Стара-Барысаўскае, Барысаўскае ды Глівінскае лясьніцтвы. **Цітавец.**

## Уступім у соцыялістычнае спаборніцтва.

Доўга абгаварвалі на агульным сходзе 15 верасьня б. г. паляўнічыя Смалявіцкага райкалялктыву пытаньне, ці чакаць ім выкліку на сацыялістычнае спаборніцтва, ці самым выклікаць каго-небудзь ды парашылі выклікаць Сьмілаўскі райкалялктыў на тэрмін з 1/X 1929 г. да 1/IV 1930 г. па аднаўленьню і разьвіцьцю паляўнічае гаспадаркі і каапэрацыі.

Кожны паляўнічы адчувае зараз сябе адказным за працу калялктыва і сельячэйкі, каб выканаць заключаную ўмову па сацыялістычнаму спаборніцтву. Трэба, каб і сьмілаўцы не падкачалі ды хутчэй прынялі высунутыя ім умовы.

Наогул-жа смалёўцы не адстаюць: на сход зьявіліся з 200 паляўнічых—160 чалавек; выказалася 16 паляўнічых; пастанавілі ў гэтым годзе здаць у фонд абароны краіны адну скурку зайца ці ваверкі.

**Г. Б.**

## Дзіч множыцца.

*(Чарнявіцкі с-с., Барысаўскага раёну).*

З таго часу, як забаронена вясеньняе паляваньне, у нас наглядаецца павялічэньне колькасьці дзічы. Шмат стала цецярукоў, рабцоў. А качкі плодзяцца ўсюды, абы толькі была вада. Ёсьць прырост зайцоў. Але шэрай курапаткі зусім няма ўжо некалькі год. Гэта гаворыць за тое, што забарона вясеньняга паляваньня спрыяе разьвядзеньню дзічы, абы толькі яна саблюдалася паляўнічым. **С. Глушэц.**

## За пушніну — добрага ганчака.

Наша каапэрацыя мае аднэй з галоўных задач—здабываньне пушніны. Адсюль выцякае неабходнасьць забясьпечыць паляўнічага сродкамі паляваньня. Але добрай стрэльбай ды прыладамі да яе усё-ж не падымеш зайца ці ліса. Трэба сабака, добры сабака—падстава пасьпяховага паляваньня. Дзе-ж узяць добрага ганчака? Купіць у прыватніка—дорага. Узяць з гадавальніка сабак „Белкохотсоюза“ за гатоўку—няма грошай. Вось тут, як і заўсёды, Праўленьне „Белкохотсоюза“ пайшло насустрэч беднякам ды пастанавіла выдаваць шчанюка за зданую бедняком пушніну, інакш кажучы кантрактаваць пушніну сродкамі здабыцьця—паляўнічымі сабакамі. Рэч вельмі цікавая. Трэба толькі, як належыць, гэта мерапрыёмства выкарыстаць. **С.**

# КАРЦЕЧЧУ ПА БРАКАНЬ

## Судзьдзя, „забясьпечаны асьветай“.

*(Гарадоцкі раён).*

У лістападзе месяцы г/г. чатыры паляўнічых г. Віцебска—Аляксееў, Мінакоў, Кукушка і Хашкоўскі былі на паляваньні ў Езярышчанскім раёне.

Хашкоўскі раптам пачуў гвалт сваёй сабакі. Калі ён прышоў на гэта месца, дык убачыў, што два вялікія надворныя сабакі грызуць яго ганчака і, каб разлучыць іх, ён стрэльнуў уверх. Не пасьпеў прагрымець стрэл, як з лесу вышаў з стрэльбай гаспадар сабак гр. Дзямідаў і пачаў лаяць Хашкоўскага, з пагрозай застрэліць за тое, што ён стрэльнуў на сабак. У гэты час падайшлі Аляксееў, Мінакоў і Кукушка і спыталі ў Дзямідава білет на права паляваньня. Замест таго, каб паказаць білет—Дзямідаў ударыў сабаку Аляксеева і пачаў зноў лаяцца і пагражаць стрэльбай.

Нашы паляўнічыя, бачучы перад сабой чалавеказьвера і да таго яшчэ браканьера, парашылі адабраць стрэльбу. Адабраную стрэльбу па прыезьдзе ў горад яны здалі ў Саюз паляўнічых з заявай аб прыцягненьні браканьера да адказнасьці.

Праўленьне таварыства накіравала справу ў міліцыю, і ўвы... апошняя, замест прыцягненьня да адказнасьці браканьера—зьвярнула яму стрэльбу назад, грунтуючыся на тым, што ён мае дазвол адміністрацыйнага аддзелу на хаваньне стрэльбы, тэрмінам толькі па 1/I 1928 г., прасрочанае на цэлых 10 месяцаў. Такі выпадак браканьер скарыстаў і прыцягнуў нашых паляўнічых да судовай адказнасьці. У выніку паляўнічыя пасьля трох пасяджэньняў суду Гарадоцкага раёну прыгавораны на шэсьць месяцаў пазбаўленьня волі, грунтуючыся на тым, што **„яны зьяўляюцца матар'яльна забясьпечанымі і асьветнымі людзьмі“**.

Вось тут вам і закон СНК аб адстрэле бадзячых сабак і клясавы падыход, а паляўнічыя кажуць, што з гэтага часу ніводзін ня стрэле па сабаку нават і ў тым выпадку, калі будзе бачыць яго шкоду.

**К. М.**

*Ад рэдакцыі.* Рэдакцыя „Паляўнічы Беларусі“ пытаецца ў „забясьпечанага асьветай“ судзьдзі, ці пaглядзеў ён у Бюлетэнь СНК БССР № 17 (42) 1927 г., арт. 17.

## Паляўнічыя ці хуліганы.

У нас яшчэ і дагэтуль вельмі няўважліва адносяцца да прыёму ў члены паляўнічае каапэрацыі. Анкеты запаўняюцца абы як і факты, паказаныя ў ёй, не правяраюцца. Але, паколькі, кожны член нашае каапэрацыі зьяўляецца ўзброеным агністрэльным аружжам, пры прыманьні ў саюз новых членаў трэба адносіцца больш уважліва. Трэба нешта зрабіць у гэтым выпадку. Трэба ведаць, ці выканае гэты таварыш усе правілы паляваньня, ці можна яму даручыць аружжа, бо часта ў нашы рады пападаюць такія людзі, якім, бязумоўна, ня месца тут.

У Любанскі калактыў паляўнічых прайшла кучка кулакоў, якія з аружжам у руках займаліся кражамі, нападалі на людзей, адбіралі ў рыбакоў рыбу, пагражаючы стрэльбамі, ды наогул дэзарганізоўвалі калектыў.

У мінулым годзе ў Астрашыцка-Гарадзецкім раёне адным паляўнічым быў забіты на паляваньні, другі з-за добрай стрэльбы.

Ды ці мала такіх выпадкаў. 7 кастрычніка гэтага году я з т. Жылінскім палявалі з лягавым сабакам каля г. Менску на курапатак. Пад вечар т. Жылінскі накіраваўся на Барысаўскі шлях, а я праз балотную станцыю дадому. Калі я праходзіў дарожкай каля лесу ў Зялёным лузе, з-пад елкі выляцеў пугач (Strix bubo) і сеў недалёка на пень. Я падышоў да яго і, калі той падняўся, стрэліў.

Пасьля гэтага я сабраў грыбоў, вышаў на дарогу і памалу накіраваўся ў Менск. Раптам мяне нагаяюць два паляўнічыя, з доўгімі бярданкамі і з гончым, чорным з падпаламі, сабакам і кідаюцца на мяне з такімі словамі: „Ты, такую тваю, растакую... пачым стрэляў? Зайцоў біць! А таварыш твой за зайца, ды наўцякача! Шкода, што мы яго ня можам злавіць, мы-б яму зарад пусьцілі. (?) Ідзем з намі! Мы з табой палічымся!“

Я раней падумаў, што яны пад такім відам хочуць адабраць стрэльбу, растлумачыў ім, што я страляў па пугачу, а таварыш, яшчэ да гэтага, накіраваўся на Барысаўскі шлях. Каб давесьці гэта, я прапанаваў вярнуцца на гэта месца, паказаць ім пугача, а потым накіравацца на кватэру т. Жылінскага і чакаць яго прыходу, ці прыдзе ён дамоў з зайцам?

Акрамя таго, я ім прапанаваў ісьці са мной у міліцыю, бо гэтыя два хуліганы-паляўнічыя самым сапраўдным чынам палявалі на зайца з ганчаком і трэці з імі, малы хлапец, нават, нешта насіў у кошыку.

Гэтыя, з дазволу сказаць, паляунічыя адмовіліся ад маіх прапаноў ды сталі ўцякаць. Я рашыў выпытаць іх прозьвішчы і праганяўся за імі па полю аж да самага захода сонца. Хуліганы, каб скрыцца ад мяне, зноў павярнулі ад гораду на Цну, і я быў прымушан вярнуцца дадому.

Абодва паляўнічыя маладыя хлопцы, у аднаго вельмі доўгая бярданка, а ў другога бярданка нармальнай даўжыні. З імі быў малады ганчак, трохі хістаючы задам ад перанесенай чумы.

А хіба такіх хуліганаў-паляўнічых мала? А хіба яны ня могуць пусьціць зарад у чалавека? А хіба не напіваюцца паляўнічыя ды ня ўчыняюць разбою?

Прымаючы ўсё гэта пад увагу, трэба больш асьцярожна падыходзіць пры прыёме новых членаў у саюз паляўнічых як нашым арганізацыям, так і самым паляўнічым. Трэба ачысьціць нашу каапэрацыю і ад хуліганаў, накіроўваючых дулы сваіх стрэльбаў на чалавека.

**Цэлеш.**

# ЕРАХ ДЫ БЮРАКРАТАХ

### У „сецях“ у рыбы.

То бывае рыба ў сецях, а тут наадварот—рыбалка ў сецях у рыбы.

Захоплен наш упаўнаважаны Рэчыцкага каляктыву паляўнічых—Бабчонак рыбнай лоўляй і сядзіць дзень і ноч над ракой з вудай. А ў магазын прыдзе і сьпіць там, што можна ня толькі тавар, а і яго за ногі выцягнуць. Работу ўсю адкінуў у бок. Аблавы не арганізоўваюцца, а калі і былі тры аблавы, то няўдалыя, бо т. Бабчонку некалі паведаміць гарадзкіх паляўнічых аб аблаве. Спадзяемся, што сьнег хутка закрые рэчку і т. Бабчонак прымецца за працу.

**Арол.**

### Апякуны над браканьерамі.

Члены Рэчыцкага каляктыву паляўнічых таварышы Носка І. і Сташук О. замест таго, каб змагацца з браканьерамі, бяруць іх пад сваю апеку на паляваньне. Але бюро каляктыву даведалася аб гэтым ды выключыла ўмоўна іх з саюзу паляўнічых на паўгода. І добра зрабіла!

**Арол.**

### У падзяку за „шчырую“ працу.

Халопеніцкі райкаляктыў паляўнічых у 1929 г. выключыў з саюзу паляўнічых т. т. Кавалеўскага Героіма, Мятэльскага Міхася і іншых „панскіх“ паляўнічых, як зьбіраўшых для спэкуляцыі па раёну пушніну ды агітуючых за здачу яе ўсімі паляўнічымі ў іншы раён з прычыны розьніцы ў цэнах.

Але фактычна выключэньне гэтых таварышоў засталося на паперы, бо іх зараз-жа, у падзяку за „шчырую працу“, прыняў у саюз Лепельскі каляктыў паляўнічых.

Ці доўга яны прабудуць у гэтым каляктыве—гэта іншая справа, але ўсё-ж такі ў 1929 годзе палявалі.

**Зуда.**

**Ад рэдакцыі.** Праўленьнем „Белкохотсоюза“ быў разаслан абежнік аб няпрыняцьці выключаных членаў саюзу паляўнічых з аднаго каляктыву ў другі.

### Рыбакі-браканьеры.

Перад адчыненьнем паляваньня на качак адчыняецца і рыбны лоў. У гэтыя часы качкі яшчэ ня лётаюць і рыбакі ставяць на іх сеці, куды яны пападаюць сотнямі. Гэта—тое-ж самае браканьерства. Трэба паляўнічым сельячэйкам усіліць нагляд за рыбакамі ў гэты час, ды такіх рыбакоў прыцягваць да адказнасьці.

**Сьцяпан Глушэц.**

### Каму гэта на карысьць.

У пушны сэзон мінулага году пушніну закупляла аддзяленьне Глівенскага спажыўтаварыства. Але каму гэта на карысьць? Бязумоўна—браканьеру, бо Белпрамсаюз паляўнічае ды зьверагадоўчае каапэрацыі ня можа кантраляваць здатчыка пушніны, ці зьяўляецца ён членам саюзу? Для таго, каб зьнішчыць браканьерства ды ўзмацніць сваю каапэрацыю, неабходна перадаць загатоўку пушніны ў адны рукі.

**Сьцяпан Глушэц.**

### Трасьцінецкая сельячэйка паляўнічых сьпіць.

Навокал в. Трасьцінец па паляўнічых угодзьдзях бегаюць бадзячыя сабакі, а паляўнічая ячэйка сьпіць. Ёсьць гаспадар Башко, які трымае 5 сабак, а на прывязі іх ня трымае. Наогул тут ня ведаюць аб тым, што сабак трэба трымаць і выводзіць на прывязі, таксама ня ведае і ячэйка, мусіць, што яна ня існуе. А потым паляўнічыя рукамі разводзяць, што няма дзічы. Дзе ж яна будзе пры такіх парадках?

**Усьцінаў.**

### Выявім браканьераў.

У в. Забалоцьце, Чэрвеньскага раёну, ёсьць паляўнічы Стралкоўскі, які страляе да тэрміну паляваньня зайцоў. Ды мала таго, што страляе, але на гэту ганебную справу заклікае свайго знаёмага з г. Менску Стэфановіча. Надоечы гэты Стэфановіч у цырульні Навумава казаў так: „Цяпер бі да бойся. Во з 15 верасьня, тады сьмела смалі!“. Трэба ўдарыць, каму належыць, па гэтых браканьерах.

**Падслухаўшы.**

---

# АДУСЮЛЬ АБА ЎСІМ.

### Наплыў мядзьведзяў ды ваўкоў.

**Грузіна, Наўгародзкае акругі.** Зьявіліся ў значнай колькасьці мядзьведзі, чуць ня кожны дзень нападаючыя на коняй ды кароў. Надоечы мядзьведзь напужаў ішоўшых па дарозе баб з ягад. Мядзьведзь ня кінуўся за імі, а толькі паламаў кошыкі ды паеў ягады.

**Петразаводзк.** Тут зьявілася шмат мядзьведзяў. Малады паляўнічы Лузгін накіраваўся у авёс падсьцерагаць мядзьведзя разам з памоцнікам лясьнічага Мартшэр, не папярэдзіўшы аб гэтым вясковых паляўнічых Туды ж накіраваліся два вясковых паляўнічых. Калі яны падышлі да аўса, то ўбачылі нейчы сілуэт. Яны прынялі яго за мядзьведзя ды двума выстрэламі ў галаву забілі Лузгіна.

**Тунгудзкі раён.** Зьявілася шмат мядзьведзяў. За кароткі час у пяці сялянскіх гаспадарках зарэзана імі сем кароў.

**Ясенаўскі раён, Цьвярской губ.** Вельмі шмат мядзьведзяў. На працягу 2-х тыдняў мядзьведзі зарэзалі 10 авечак, 3 цялят і каня.

**Ормаўскі р., Рыбінск. акр.** Зьявілася шмат мядзьведзяў ды ваўкоў. Загінула шмат кароў ды дробнае жывёлы. З-за наплыву мядзьведзяў ды ваўкоў прыпынены палявыя работы. З Рыбінска выехалі 50 паляўнічых.

**Ледзенгская акруга,** Валагод. губ. За месяц мядзьведзямі зьнішчана больш за 50 галоў рагатае жывёлы ды коняй.

**Сараеўскі раён.** Штогод лясныя бандыты-мядзьведзі бяруць вялізарную дань з насельніцтва коньмі ды каровамі. У гэтым годзе за лета, „Мядзьвежы падатак“ вылічаецца ў 2500 руб. Заелі мядзьведзі 8 лепшых коняй і 2 каровы.

**РСФСР.** Пасьля забароны назіраецца зьяўленьне выпадкаў вадаплаваючай дзічы там, дзе яе ня было ўжо некалькі год.

**Петразаводзк.** У раёне Ладвінскага с с., Прычаненскага раёну Карrэспублікі назіраўся масавы падзеж кратоў. Краты вылязалі з нораў ды дохнуць на лугох сотнямі. Пагібель на іх, як відаць, мае глыбокую сувязь з успышкай у паказаным раёне эпідэміі сібірскай язвы.

# Лесосплав и рыболовство.

Давно известно, что лесосплав самым вредным образом отражается на интересах рыбного хозяйства.

В течение последних лет были предприняты попытки подойти к научному исследованию вредного влияния лесосплава и вообще лесопромышленности на рыбное хозяйство. В СССР подобного рода работа была произведена на Бородинской пресноводной Биологической Станции, в Карелии Н. Кожиным и А. Трифоновым, а в Швеции исследователем Г. Альмом.

Вредное влияние лесосплава сказывается, главным образом, в том, что древесная кора и сама древесина, соприкасаясь в течение долгого времени с водой, изменяют химический состав последней. Из древесины и коры в воду переходят следующие вещества: дубильные вещества, органические кислоты, углеводы (крахмал), белковые вещества. Так как все названные только что соединения очень нестойки, они быстро разлагаются и продукты их разложения загрязняют воду, что, в свою очередь, вызывает обеднение воды кислородом Как установлено наблюдениями Бородинской Станции, наибольшее влияние лесосплав на химический состав воды обнаруживается в местах скопления бревен (затани) и на порогах, а также у лесопильных заводов, сбрасывающих свои отбросы в воду. Засорение воды ведет к гибели икры семги на реках, впадающих в Белое море и озерного лосося в Онежском и Ладожском озерах.

Наблюдениями в Швеции установлено, что икра мечущих осенью рыб—лосось и сич—погибает от заражения бактериями и грибками в местах скопления коры деревьев. На одном из рыбоводных заводов Швеции был поставлен опыт, при котором икра лососей выдерживалась в воде пропущенной через сосновую и еловую кору. Процент гибели икры в этом случае доходил до 92,2. В то же самое время гибель икры при пользовании водой без коры составляла от 32 до 2,5 проц. Обнаружено, что икра погибает даже и в том случае, если она только омывается водой, протекающей через корье. Мечущие икру весной рыбы менее страдают от лесосплава, так как в этом случае время развития икры очень непродолжительно, всего несколько суток, и икра не успевает заразиться бактериями и грибками. Альм следующим образом характеризует влияние лесосплава на рыбный промысел: вредное действие сплава прямо пропорционально количеству сплавляемой древесины, продолжительности сплава, количеству плотин и т. д. и обратно пропорционально расходу воды данной водной системы.

Каким же образом бороться с вредным влиянием лесосплава на рыбное хозяйство? Необходимо отметить, что существующие в настоящее время правила, регулирующие в законодательном порядке интересы лесосплава и рыболовства, в очень небольшой степени разрешают этот больной вопрос.

По мнению Альма, хотя такие меры, как тщательная окорка бревен, устройство запаней, тщательная буксировка плотов и т. п. частично и предохраняют рыболовство от вредного влияния лесосплава, все же все это является только паллиативом. Единственным выходом из положения он считает применение искусственного рыборазведения. На этот путь и вступила Швейцария, где по закону все сплавляющие организации могут быть обложены специальным сбором на устройство рыборазводных заводов.

**В. Е—ов.**

# Перапіска з чытачом.

*Хранюку А. І.* (Лепельскі раён). Ствалы да вашай стрэльбы можа зрабіць толькі Тульскі дзяржаўны аружэйны завод, з якім вы і павінны сьпісацца па адрасу: г. Тула, 1-му Дзяржаўнаму аружэйнаму заводу.

*Васютовічу В.* Жэтоны судзейскай камісіяй ня прысуджаліся, а дыплёмы будуць выдадзены ў хуткім часе. Зьвярнецеся з заявай па гэтай справе да праўленьня „Белкохотсоюза“.

*Карлоўскаму С.* (Уваравіцкі раён). На аналёгічныя запытаньні давалася шмат адказаў у №№ 4, 5, 6, 7 ды 8 „Паляўнічы Беларусі“, дзе вы і знойдзеце адказ на сваё запытаньне.

**Сацукевічу М. В.** (Бабруйскі р.). 1) Дазволена паляваньне на вавёрку ды куніцу на падставе пастановы Ўраду. 2) Паляваньне на гэтых зьвяроў дазволена па ўсіх акругах БССР з 1-га сьнежня па 15 лютага. 3) Зьнішчаць сабак стрэламі, як небясьпечным спосабам для жыцьця людзей, у населеных мясцох забараняецца. 4) Адабраць стрэльбу ў браканьера на паляваньні паляўнічы мае права і здаць у міліцыю.

# ДА ВЕДАМА ПАЛЯЎНІЧЫХ.

**Шмат паляўнічых зьвяртаецца ў праўленьне „Белкохотсоюза“ аб выдачы ў растэрміноўку замежных стрэльбаў.**

**Праўленьне „Белкохотсоюза“ паведамляе, што крэдыту на замежныя стрэльбы не даецца. Але, ідучы насустрач маламоцным паляўнічым, „Белкохотсоюз“ прымае ад паляўнічых авансы з такім разьлікам, каб да прыбыцьця стрэльбаў было ўнесена ня менш двох трэціх каштоўнасьці стрэльбы.**

**У такіх выпадках апошняя частка грошай можа быць растэрмінована на некалькі месяцаў пасьля атрыманьня стрэльбы паляўнічым.**

**Партыя замежных стрэльбаў будзе атрымана ў канцы сьнежня ці пачатку студзеня.**

# ДА ВЕДАМА УПАЎНАВАЖАНЫХ ПА ПРЫЁМУ ПАДПІСКІ НА ЧАСОПІСЬ „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“.

**У рэдакцыю пастудае ад некаторых упаўнаважаных падпіска на часопісь „Паляўнічы Беларусі“ разам, на адным квітку, на частку 1929 г. і 1930 г.**

**Рэдакцыя просіць дасылаць квіткі на падпіску на кожны год у паасобку, г. зн. выпісваць асобны квіток на кожны год.**

**Пісаць адрасы чытэльна.**

**Рэдакцыя**

## ОПЕЧАТКА.

**В № 9 в ст. „О птичьих винтовках“ попала опечатка: следует читать: но допускают снаряжение „литыми пулями“, вместо „не допускают“. Страница 7-ая, 2-ой столбец, строка сверху 17-ая.**

# УЗМАЦНІЦЬ АХОВУ ПАЛЯЎНІЧАЙ ГАСПАДАРКІ.

## ТЭРМІНЫ ПАЛЯВАНЬНЯ НА ПУШНЫХ ЗЬВЯРОЎ ПА БЕЛАРУСІ Ў 1929-30 г.

| Назва зьвера | Тэрмін паляваньня | Назва зьвера | Тэрмін паляваньня |
|---|---|---|---|
| Барсук . . . . . . . | з 15/X—15/II | Пацук вадзяны . . . . | круглы год. |
| Вавёрка . . . . . . . | з 1/XII—15/II | Куніца . . . . . . . | з 1/XII—15/II |
| Воўк лясны . . . . . | круглы год. | Вавёрка-ляцяга . . . . | з 1/XII—15/II |
| Выдра. . . . . . . . | з 1/XII—15/II | Норка. . . . . . . . | з 1/XII—15/II |
| Ласка. . . . . . . . | з 1/XII—15/II | Тхор . . . . . . . . | круглы год. |
| Заяц-бяляк. . . . . . | з 15/X—15/II | Гарнастай . . . . . . | з 1/XII—15/II |
| „ русак. . . . . . . | з 15/X—15/II | Рысь . . . . . . . . | круглы год |
| Крот . . . . . . . . | круглы год. | Лісіца. . . . . . . . | з 15/X—15/II |

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ.

## ПАСТАНОВЫ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ЗЕМЛЯРОБСТВА АБ АХОВЕ І АДЧЫНЕНЬНІ ЗАКАЗЬНІКАЎ

### ПАСТАНОВА

1929 г. Кастрычніка 7 дня.—У мэтах лепшай аховы і наданьня належнага супакою для памнажэньня паляўнічай фауны ў Дзяржаўным паляўнічым запаведніку—Народны Камісарыят Земляробства пастанавіў утварыць ахоўную паласу навакол запаведніка з забаронай у ёй паляваньня ў наступных межах:

Пачатковы пункт—м. Мсьціж.—З Мсьціжа па дарозе цераз вёс.: Ніўкі, Гарэлае, Воўча і далей па бальшаку да Бягомля. Ад Бягомля па таму-жа бальшаку цераз вёс. Бярэсьнеўку, міма цэркаўкі каля дзара „Асавіны", па дарозе цераз Лінскае поле (вур. Вярхоў'е—выскладніца) да сяла Бярэзіна; з с. Бярэзіна па дарозе да Старога Сяла, далей па зімовай дарозе цераз р. Беразяну на в. Атрубак. З Атрубка па дарозе да вёс. Бальшой Чарніцы і далей па бальшаку да вёс. Лісіна, адкуль дарогаю да х. Брады-Смалярны-Бор да вёс. Пушанкі і далей па бальшаку да в. Пуцілкавіч (па дачах Бягомльскага лясь-ва). Ад Пуцілкавіч па дарозе цераз х. Ліпнікі да Любава-Каменка.

Далей па граніцы Бягомльскага і Лепельскага лясьніцтваў да р. Сэргуча, адкуль уніз па р. Сяргучы да возера Ольшыца (уключыўшы гэта возера ў межы Заказьніка) і далей па ўсходняму берагу возера Ольшыца і рэчкі Прыдушніцы да ўпаданьня яе ў возера Плаў'я і па ўсходняму берагу возера Плаў'я да граніцы Сьвяцкага з Лепельскім лясь-вамі. Па граніцы Сьвяцкага з Лепельскім л-вамі да слупа быўшых трох уладароў (Іванова, Ціханавецкага і Спасоўскага), адтуль па граніцы паміж лясоў быўшых абшарнікаў (Ціханавецкага і Іванова) да Бярэзінскага злучаючага каналу і ўніз па каналу да шлюза № 6. Ад шлюза № 6 па новай ваеннай дарозе, што з тэлефоннымі правадамі, цераз рэчку Кеста. каля хут. Лоўкі, а там уніз па дарозе да х. Сокала; ад х. Сокала па той-жа дарозе да вур. Нанесі цераз х Рэчкі на Валушчыну. З в. Ведзяўшчыны па дарозе цераз хут. Стайчаўку (Язэпа Градзюшкі) і далей па зімняй дарозе цераз часьцік да вёс. Стайчаўкі.

З в. Стайчаўкі па зімняй дарозе да хут. Базыльяншчына, а адтуль па старой пазыцыі да дарогі, якая ідзе з Вялікай-Ракіў Латнюлічы (вур. Бабі-Лог), далей па тэй-жа самай пазыцыі да вёс. Уцеха, а адтуль па дарозе на х. Ізабеліну, Жортай, Жортайка. пас. Лютца цераз вур. „Добрую воду" да вёс. Крацевіч. З Крацевіч па дарозе цераз канец Дубовага-Логу да заст. Белавіна, а з Белавіна дарогаю да граніцы лясоў Вільянаўскай дачы Стара-Барысаўскага л-ва і па абрубу гэтага лесу да хут. Задні-Мост. З Задняга-Маста ўніз па р. Качцы да Хаўхоліцкага млыну. Ад Хаўхоліцкага млыну па дарозе цераз в. Хаўхолец міма Рагацкага магільніка да в. Рагаткі, а там упоперак вёскі дарогаю на зьнішчаны ваенны мост цераз р. Бярэзіну і далей па грэблі да двара Скупліна. З двара Скупліна па дарозе цераз вёс. Карсаканічы, Будзеніцкая-Рудня, двор Будзенічы в. Бажадары і м. Мсьціж.

Загадчыку Дзяржаўнага паляўнічага запаведніку разам з лясьнічымі ваколічных лясьніцтваў адвесьці ў натуры вызначаную паласу з пастаноўкай па дарогах па мяжы паказальных знакаў гаспадарчым шляхам—сіламі тых лясьніцтваў, на тэрыторыі якіх праходзіць ахоўная паласа.

Лясной адміністрацыі і варце запаведніка, а таксама і акаляючых лясьніцтваў, на тэрыторыі якіх праходзіць ахоўная паласа, строга наглядаць за тым, каб у паказальнай паласе не ўтваралася браканьерства.

Арганізацыя аблаў на 4-хногіх драпежнікаў у ахоўнай паласе ўскладаецца на адміністрацыю запаведніка пры непасрэдным прыняцьці ўдзелу ў гэтай справе лясной варты і адміністрацыі лясьніцтваў, на тэрыторыі якіх арганізуецца аблава.

Індывідуальны адстрэл 4-хногіх і пярнатых драпежнікаў і брадзячых сабак павінен весьціся лясной вартай лясьніцтваў па абходах, цераз якія праходзіць ахоўная паласа.

Загадчыку Дзяржаўнага паляўнічага запаведніку абвясьціць мясцовыя сельскія ячэйкі паляўнічай арганізацыі аб утварэньні ахоўнай паласы.

За Народнага камісара земляробства **Масюкоў.**

За Кіраўніка лясной групы **Пятрушын.**

### ПАСТАНОВА

15 кастрычніка 1929 г. — Згодна дырэктывы ЭКАНА ад 17/VI г. г., Народны Камісарыят Земляробства пастанаўляе:

Арганізаваць паляўнічы заказьнік, тэрмінам на 5 год, з 15-га кастрычніка 1929 г. па 15-ае кастрычніка 1934 г. у паўночна-ўсходняй частцы Якубаўскай дачы Клясьціцкага лясь-ва, Полацкай акругі на плошчы 3.548,9 га і сумежнай частцы Шадурскай дачы. Юхавіцкага лясь-ва на плошчы 1.904 га, а ўсяго агульнай плошчай—5.452,9 га ў наступных межах:

Па Якубаўскай дачы, Клясьціцкага лясь-ва кв. кв. №№ 1, 2, 3, 8, 9, 10, 11, 17, 18, 20, 28, 29, 30, 36, 42, 43, 44, 45, 46, 54, 55, 56, 57, 58, 66, 67, 68, 69, 77 і 78.

Па Шадурскай дачы, Юхавіцкага лясь-ва: кв. кв. №№ 80, 81, 82, 83, 95, 96, 97, 109, 110 і 120.

Прапанаваць Полацкаму АКРЗА прыняць захады да належнага вызначэньня ў натуры межаў заказьніка і аховы яго згодна абежніка НКЗ № 10 г. г.

Наркамземляробства **Рачыцкі.**

Загадчык лясного кіраўніцтва **Філатаў.**

## Шкала грашовых узносаў па Беларускаму прамысловаму саюзу паляўнічай і зьверагадоўчай каапэрацыі на 1930 год.

| Катэгорыя | Група | Назва групы | Пай | | Уступныя | | Дзяржзбор | | Мясцовы збор | | Арганізацыйн. | Блянк білету | Штраф за недастрэл драпежнікаў | | У касу ўзаемадапамогі | | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | К. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. |
| 1 | а | Чырвонаармейцы . . . | — | — | — | 50 | — | — | — | — | 25 | 20 | — | — | — | 75 | 1 | 70 |
| | б | Дэмабілізаваныя чырвонаармейцы на працягу году пасьля дэмабілізацыі . | — | 50 | — | 50 | 1 | — | — | 50 | 25 | 20 | — | — | — | 75 | 3 | 70 |
| | в | Беспрацоўныя, якія атрымоўваюць дапамогу з Біржы Працы (на час беспрацоўя) . | — | 50 | — | 50 | 1 | — | — | 50 | 25 | 20 | — | 50 | — | 75 | 4 | 20 |
| 2 | а | Рабочыя і служачыя, якія зарабляюць да 40 р. у месяц і партызаны Чырвонай Арміі, якія маюць дакуманты . . | 3 | — | — | 50 | 1 | — | — | 50 | 25 | 20 | — | 50 | — | 75 | 6 | 70 |
| | б | Сяляне, аслабанёныя ад сельгаспадатку . | 3 | — | — | 50 | 1 | — | — | 50 | 25 | 20 | — | 50 | — | 75 | 6 | 70 |
| | в | Лясная варта, міліцыянэры і чыгуначная варта . . . | 3 | — | — | 50 | — | — | — | — | 25 | 20 | — | 50 | — | 75 | 5 | 20 |
| | г | Інваліды вайны і працы, якія атрымоўваюць пэнсію ад органаў Сацыяльнай забясьпекі . | 3 | — | — | 50 | — | — | — | — | 25 | 20 | — | 50 | — | 75 | 5 | 20 |
| | д | Вучні, якія атрымліваюць стыпэндыю . | 3 | — | — | 50 | 1 | — | — | 50 | 25 | 20 | — | 50 | — | 75 | 6 | 70 |
| 3 | а | Рабочыя і служачыя, якія зарабляюць ад 40 руб. да 80 р. у м-ц . | 10 | — | 1 | — | 1 | — | — | 50 | 50 | 20 | 1 | — | — | 75 | 14 | 95 |
| | б | Асобы каманднага складу Чырвонай арміі, міліцыі і ДПУ і лясная адміністрацыя, заробак якіх менш 80 р. у месяц . . . | 10 | — | 1 | — | — | — | — | — | 50 | 20 | 1 | — | — | 75 | 13 | 45 |
| | в | Сяляне, якія плацяць сельгаспадатак да 10 р. . . . | 10 | — | 1 | — | 1 | — | — | 50 | 5 | 20 | 1 | — | — | 75 | 14 | 95 |
| | г | Сяляне—члены калгасаў і камун . . . | 10 | — | 1 | — | 1 | — | — | 50 | 50 | 20 | 1 | — | — | 75 | 14 | 95 |
| 4 | а | Рабочыя і служачыя, якія зарабляюць у месяц 80 р. і вышэй . . | 15 | — | 1 | — | 1 | — | — | 50 | 50 | 20 | 1 | 50 | 1 | 25 | 20 | 95 |
| | б | Саматужнікі-адзіночкі і аб'яднаемыя ў арцелі . | 15 | — | 1 | — | 3 | — | 1 | 50 | 50 | 20 | 1 | 50 | 1 | 25 | 23 | 95 |
| | в | Асобы каманднага складу Чырвонай арміі, міліцыі і ДПУ, лясная адміністрацыя, заробак якіх раўняецца 80 р. у месяц і вышэй . . | 15 | — | 1 | — | — | — | — | — | 50 | 20 | 1 | 50 | 1 | 25 | 19 | 20 |
| | г | Сяляне, плацячыя сельгаспадатак звыш 10 р. і з надбаўкай да 6% уключна . . | 15 | — | 1 | — | 1 | — | — | 50 | 50 | 20 | 1 | 50 | 1 | 25 | 20 | 95 |
| 5 | а | Асобы вольных прафэсій . . | 25 | — | 1 | — | 3 | — | 1 | 50 | 50 | 20 | 2 | — | 1 | 25 | 34 | 45 |
| | б | Сяляне, плацячыя сельгаспадатак з надбаўкай ад 7% да 10% уключна . . . | 25 | — | 1 | — | 1 | — | — | 50 | 50 | 20 | 2 | — | 1 | 25 | 31 | 45 |
| | в | Саматужнікі, якія карыстаюцца наёмнай рабочай сілай . . . | 25 | — | 1 | — | 3 | — | 1 | 50 | 50 | 20 | 2 | — | 1 | 25 | 34 | 45 |

*Увагі:* 1) Пай уплачваецца пайшчыкамі 1-й катэгорыі на працягу **аднаго году** з растэрміноўкай. 2-й і 4-й катэгорыі на працягу **двух гадоў**, 3-й катэгорыі на працягу **трох гадоў** і 5-й катэгорыі **цалкам пры ўступленьні**.

2) **Пайшчыкі**, якія ўступілі ў Саюз у 1929 годзе 2 і 4-й катэгорыі і ўступіўшыя ў 1928 годзе 3-й катэгорыі, павінны свой пай давесьці да поўнага разьмеру. Пайшчыкі 3-й катэгорыі, уступіўшыя ў Саюз у 1929 годзе, даводзяць свой пай да 7 руб.

3) Кваліфікаваныя рабочыя, якія зьяўляюцца сэзоннымі беспрацоўнымі, адносяцца да катэгорыі на падставе заробку ў час працы.

4) Дэмабілізаваныя чырвонаармейцы праз год адносяцца да той ці іншай катэгорыі, пасьля чаго пай папаўняецца ў вызначаны па катэгорыі тэрмін.

5) Уноў уступаючыя штраф за неадстрэл драпежнікаў ня плацяць.

6) Асобы, якія перарэгіструюцца, уступных узносаў ня плацяць.

7) У лік узносаў у касу ўзаемадапамогі ўваходзяць 25 кап. уступных і для 1, 2 і 3-й катэгорый 50 кап., а для 4 і 5-й катэгорый 1 руб. членскіх узносаў. У акруговых арганізацыях, у якіх існуюць касы ўзаемадапамогі і ў якіх уступны ўзнос ужо сыскан, уступны ўзнос не спаганяецца.

# УЗМАЦНІМ АБАРОНУ КРАІНЫ.

## ДВА ДНІ ПАЛЯВАНЬНЯ НА АБАРОНУ КРАІНЫ.

Узброеная да зубоў міжнародная буржуазія падрыхтоўвае вайну супроць першае ў сьвеце пралетарскае дзяржавы.

У адказ на налёты ды зьдзекі міжнароднага імпэрыялізму, паляўнічыя Беларусі на сваіх сходах пратэстуюць і заяўляюць, што яны гатовы па першаму закліку Савецкай улады і Камуністычнай партыі стаць у рады Чырвонай арміі і з стрэльбамі ў руках абараняць межы першае ў сьвеце сацыялістычнае бацькаўшчыны пралетарыяту.

Для падняцьця абароназдольнасьці яны вынесьлі пастанову аб правядзеньні ў паляўнічай каапэрацыі двохдзённіка. Праўленьне Беларускага Прамсаюзу зьверагадоўчай і паляўнічай каапэрацыі, падводзячы ітог пастановам агульных сходаў паляўнічых, рашыла правесьці двохдзеньнік калектыўнага паляваньня на ўсёй Беларусі ў сьнежні месяцы.

Для выкананьня гэтага рашэньня трэба зараз-жа прыняцца да правядзеньня арганізацыйнай работы і азнаямленьню з гэтым усіх членаў нашае каапэрацыі.

Бязумоўна, уся цяжкасьць гэтае работы ляжа на раённыя калектывы і сельскія ячэйкі. Акруговыя праўленьні зараз-жа павінны правесьці агульныя сходы раённых калектываў і абсудзіць на іх пытаньне, як найлепш правесьці гэты двохдзеньнік; адначасова замацаваць за кожным раённым калектывам аднаго члена акрпраўленьня.

Раённыя калектывы таксама павінны правесьці шырокую растлумачальную кампанію сярод сваіх членаў, шляхам правядзеньня ячэйкавых сходаў, і на гэтых сходах назначыць плян і дні калектыўных паляваньняў.

Для гэтага бюро сельячэек павінна разьбіць сваіх паляўнічых на групы па 5—6 чалавек, назначыўшы адказнага кіраўніка паляваньня і прымаючы само ўдзел.

На ўсе скуркі забітых на гэтых паляваньнях зьвяроў групамі, сельячэйкамі ды бюро калектываў складаюцца акты і разам з скуркамі накіроўваюцца ў „Белкохотсоюз“, даваючы аб гэтым зьвесткі акрпраўленьням.

**На спробы імпэрыялістых задушыць рэспубліку саветаў — адкажам узмацненьнем абароназдольнасьці краіны.**

**Усе паляўнічыя — на двохдзеньнік адстрэлу зьвера на карысьць абароны!**

---

## ПАБУДУЕМ САМАЛЁТ „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“

## УНОСЯЦЬ ДЫ ВЫКЛІКАЮЦЬ:

**Касьцюковіцкі раён:**

Шунькін Г. Н., Падабед С. Д., Белянінаў І. Ф., Саўчэнка А. І., Казакоў Ф. Д., Тамашоў Ф. М., Кірылаў Н. Е., Краўцоў К. Ф., Аўчыньнікаў Р. Е., Новікаў І. І., Цынгалееў І. І., Логінаў Н. П., Кірпічэнка Г. А., Осіпаў Д. І., Баранаў Н. В., Саўчэнка Н. І., Бархуткін М. Т., Талкачоў Ф. К., Стэфаненка А. Д., Жбанкоў С. І., Ларчэнка А. Н., Малякоў А. О., Вайцякоў І. І., Мадудзін Н. Т., Ермакоў Г. М., Зарэцкі С. Е., Мяшулкін Ф. М.

**Буда-Кашалеўскі раён:**

Алексін К., Казакоў А., Усаў А., Прыбыльскі К., Ястрэмскі В., Масьленчонкаў С., Куцэпаленка Ф., Байдалоў Н., Корсак Н., Байдалоў І., Якіменка К.

**Брагінскі раён:**

Чыгарэўскі Ф. Ф., Трацэўскі Ф. С., Лазавік І. Г., Чыгарэўскі В. Т., Кулай Д. Я., Мартыненка В. І., Парэмскі Ф. Л., Філіповіч Р. М.

**Усяго сабрана на 10 кастрычніка 12570 руб. 16 кап.**

**Я, паляўнічы Лепельскага раёну, Дэксніс А. М. уношу 1 руб. на пабудову самалёта „Паляўнічы Беларусі“ і выклікаю на такую-ж суму ўсіх сяброў бюро калектыву і рэўкамісіі Лепельскага раёну.**

**А. ДЭКСНІС.**

---

### На індустрыялізацыю краіны.

Паляўнічыя масы ўскалыхнуты падпіскай на 3-ю пазыку індустрыялізацыі краіны. Так, на агульным сходзе паляўнічых Забашэвіцкае ячэйкі, Барысаўскага раёну, яны вынесьлі пастанову падпісацца на 25 руб. на пазыку, але потым перадумалі і парашылі выкарыстаць адзін пагодлівы дзень па прошы для калектыўнага паляваньня ў ліку 30 чалавек і ўсю выручаную суму грошай ад скурак здабытых у гэты дзень зьвяроў аддаць на 3-ю пазыку індустрыялізацыі краіны. А зьнізу ў пратаколе зрабілі прыпіску—выклікаць на гэта самае Чарневіцкую ячэйку паляўнічых. **М. В. Сацукевіч.**

---

*Часопіс выходзіць пад рэдакцыяй:* **М. Ф. Шмідта, У. С. Данькова і Г. Я. Хлеўнікава.**

*Адказны рэдактар:* **Міх. Шмідт.**

ЦАНА 30 кап.

894









Менск, Друкарня БДВ. Заказ № 236. У ліку 10.000. Галоўлітбел № 157.